КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 30 (351) ◂ 16 жніўня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ГАСПАДЫНЯ «РОДНАГА КУТКА»

Стар. 15

**КРАІНА, ДЗЕ НЕ ТРЭБА АДКАЗВАЦЬ ЗА «БАЦЬКУ»**

Краінамі Балтыі даволі часта палохае насельніцтва дзяржаўная прапаганда ў Беларусі і Расіі, каб запэўніць у правільнасці выбару на карысць адмаўлення ад заходняй цывілізацыйнай мадэлі

Стар. 4–5

**НАШЧАДКІ ЗАЛАТОЙ АРДЫ**

Краіны сярэдняй Азіі перасварыліся за права лічыцца нашчадкам Залатой Арды і, адпаведна, за права валодання ўсёй тэрыторыяй былой мангольскай дзяржавы

Стар. 11

**«ЛОМ» — ДЫВЕРСІЙНАЯ АПЕРАЦЫЯ ПОЛЬСКАЙ ВЫВЕДКІ**

Стар. 14

ISSN 2218-2144



**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ: ІНТЭЛЕКТУАЛ З ГІТАРАЙ**

Нарыс Юркі Копціка

З НАГОДЫ

# ЯК ЗМЯНІЦЬ СІСТЭМУ?

*Сяргей ПУЛЬША*

**Здаецца, урэшце высокія чыноўнікі Беларусі ўцямілі: немагчыма дасягнуць поспеху, калі кіраваць пастарому, змены ёсць суровая неабходнасць. Вось толькі ці выйдзе з гэтага разумення што-небудзь карыснае?**



Яшчэ 1 жніўня на чарговай і ўжо дзяжурнай нарадзе па пытаннях барацьбы з карупцыяй і эканамічнымі злачынствамі Лукашэнка заявіў чыноўнікам: «Калі можаце кіраваць — кіруйце ўсёй сістэмай, не — значыць, будзем думаць: ці новых людзей прыцягваць, ці сістэму мяняць».

Яго словы пра «мяняць сістэму» моцна заселі ў галовах чыноўнікаў. І вось ужо 12 жніўня, разважаючы аб мадэрнізацыі на дакладзе ў прэзідэнта, «смотрящий» за мадэрнізацыяй Пётр Пракаповіч заяўляе: «Ніякае самае дасканалае абсталяванне, тэхналогіі не будуць эфектыўна працаваць, калі не выбудаваная сістэма кіравання, сістэма матывацыі работнікаў, захаванне вельмі жорсткай дысцыпліны і тэхналогій. Калі мы гэтага не зробім, то не зможам эфектыўна выкарыстоўваць тыя рэсурсы, якія ўкладзем у тэхнічную мадэрнізацыю».

Паводле слоў Пракаповіча, неабходна «стварыць сістэму эканамічнага кіравання, якая забяспечыць канкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі, яе адпаведнасць лепшым сусветным паказчыкам».

Тое, што мяняць сістэму трэба, што краіне патрэбныя добрыя і адукаваныя менеджэры, неаднаразова казалі палітолагі і эканамісты. Бо каманднa-адміністрацыйная сістэма (КАС) па ўзору эсэсэраўскай, якая ўсталявалася ў «беларускім эканамічным цудзе», можа загадаць толькі стварыць прадукцыю. А яе продаж загадам «зверху» ўжо не паддаецца.

Для таго, каб змяніўся менеджмент, трэба змяняць і сістэму кіравання прадпрыемствамі. Прадукцыя павінная быць запатрабаванай на рынках, найперш замежных. А гэта азначае не толькі зніжэнне энергаёмістасці мадэрнізаваных прадпрыемстваў, а яшчэ і гнуткасць у вытворчасці прадукцыі, яе пастаяннае абнаўленне, інавацыі і гэтак далей. Вось тут ужо нельга толькі бяздумна выконваць «план па трактарах» альбо працаваць выключна на павелічэнне ВУП, не зважаючы на тое, колькі гэтай прадукцыі засталося на складах.

Змена ж сістэмы кіравання прадпрыемствамі на іншую, больш рынкавую, небяспечная для сацыяльна-палітычнай сістэмы ўлады. Бо, лібералізаваўшы кіраванне прадпрыемствамі, надаўшы ім больш самастойнасці, улада ставіць пад сумнеў беларускі міф аб «стабільнасці» і парадку. Прынамсі, з двума міфамі — пра ВУП і пра вельмі нізкі ўзровень беспрацоўя — давядзецца развітацца.

Адпаведна, гэта ўжо ствараe небяспеку для сацыяльна-палітычнага становішча ў краіне. А праз нейкія паўтара гады нам свецяць новыя прэзідэнцкія выбары.

Так што пытанне, які шлях будзе абраны для «змены сістэмы», застаецца адкрытым.

Мэта любой улады — гэта найперш захаванне ўлады. Карэнная «змена сістэмы», выходзячы з гэтага, проста немагчымая ў нашых умовах, бо яна прывядзе да краху палітычнай стабільнасці. Гэта пры дэмакратыях добра — прыход да ўлады апазіцыйнага палітыка не закранае сутнасці самой сістэмы кіравання, паколькі, па вялікім рахунку, шлях развіцця краіны ад палітыкаў не залежыць. Там палітыкі ведаюць, што рана ці позна, але прыйдзецца сысці ў адстаўку, таму працуюць на дасягненне доўгатэрміновых планаў і задач, якія, у залежнасці ад кіраўніка, падлягаюць толькі карэкціроўцы. Але ў нашым аўтарытарным рэжыме, калі ўсё завязана на аднаго чалавека, «змена сістэмы» якраз азначае менавіта карэнны злом усіх сфераў жыцця.

Ва ўладзе назіраюцца дзве супрацьлеглыя тэндэнцыі. З аднаго боку, ёсць спроба рэфармаваць эканоміку ў больш эфектыўную з пункту гледжання рынкавых патрабаванняў. Прэзідэнт не толькі казаў пра «змену сістэмы» і мадэрнізацыю. У працэсе абмеркаванняў папраўак у Крымінальны кодэкс ён выказаў думку, што не ўсіх эканамічных злачынцаў трэба адразу ж караць. Прынамсі, Лукашэнка лічыць важным прыняць у дзяржаве меры, накіраваныя на разнявoленне дзелавой ініцыятывы ва ўмовах аб'ектыўна існуючай прадпрымальніцкай рызыкі. У прыватнасці, падрыхтаваныя змены ў заканадаўства прадугледжваюць выключэнне процiпраўнасці дзеі пры дзелавой рызыцы, прымяненне дасудовага пагаднення аб супрацоўніцтве, укараненне крымінальна-прававой кампенсацыі, дэкрыміналізацыю асобных дзеянняў, якія не ўяўляюць вялікай грамадскай небяспекі. Гэта «салодкі» бок.

Але з іншага боку, дзяржава не мае намеру выпускаць з рук важнейшыя палітычныя рычагі — тут гайкі толькі зацягваюцца. Гэта і меркаваная «забарона на байкот» у Выбарчым кодэксе, і правядзенне мясцовых выбараў у адзін тур, і стварэнне агітацыйнай прадукцыі кандыдатаў у дэпутаты не самімі кандыдатамі, а выбарчымі камісіямі (чытай — уладай).

Але, як вядома, эканоміка з палітыкай вельмі павязаная. Як лібералізацыя эканомікі адбіваецца на палітычных працэсах, ужо казалася вышэй. Такім чынам, зараз «балансуючая» ўлада павінна выбраць: альбо адмова ад рэформаў кіравання і «змены сістэмы», што можа прывесці да сістэмнага эканамічнага крызісу, альбо — усё ж такі змена гэтай сістэмы, што можа выклікаць сацыяльна-палітычныя пераўтварэнні ў краіне.

Паводле меркавання палітолага Валера Карбалевіча, улада пакуль што працягне балансаваць паміж гэтымі дзвюма выклікамі, рэагуючы на тыя праблемы і выклікі, якія паставіць перад ёю час.

Але наколькі доўга працягнецца такое балансаванне, прадказаць немагчыма. Больш за тое, «скатванне» і ў бок лібералізацыі, і ў бок зацягвання гаек прывядзе толькі да аднаго выніку — да змены сістэмы. Пры рэформе кіравання змена сістэмы можа прайсці менш балючым шляхам. У выпадку «зацягвання гаек» спачатку надыдзе калапс эканомікі, а ўжо затым — змена сістэмы.

ПАЛІТВЯЗНІ

# СПАГНАННІ БЯЛЯЦКАМУ ЗАСТАЮЦЦА

Генадзь КЕСНЕР

**У Беларускую асацыяцыю журналістаў (БАЖ) на імя намесніка старшыні арганізацыі Андрэя Бастунца прыйшоў адказ ад Аляксандра Какуніна — начальніка калоніі №2 горада Бабруйска.**

У гэтай калоніі адбывае пакаранне ў выглядзе чатырох з паловай гадоў зняволення сябра БАЖ, старшыня незарэгістраванага Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі.

БАЖ раней накіроўваў зварот да адміністрацыі папраўчай установы, у якім заклікаў змякчыць Бяляцкаму рэжым утрымання. У сваім лісце Аляксандр Какунін піша, што за час адбывання пакарання Алесь Бяляцкі «неаднаразова дапускаў парушэнні вызначанага парадку адбывання пакарання», што «ўказаныя ў звароце спагнанні асуджаны Бяляцкі А. В. не абскарджваў», і што «падставаў для адмены спагнанняў альбо іх замены на іншыя... не маецца», цытуе допіс начальніка бабруйскай калоніі прэс-служба БАЖ.

Пры гэтым спадар Какунін не прамінуў адзначыць, што «Крымінальна-працэсуальнае заканадаўства РБ заснаванае на прынцыпах законнасці, гуманізму, дэмакратызму, роўнасці асуджаных перад законам…»

Але праўдзіць словы начальніка калоніі не ўяўляецца магчымым. Як адзначыў у інтэрв'ю «Новаму часу» Андрэй Бастунец, сённяшнія ўстановы пенітэнцыярнай сістэмы з'яўляюцца яшчэ больш закрытымі, чым яны былі дзесяць гадоў таму. «У свой час прадстаўнікам БАЖ нават дазволілі наведаць месца адбыцця пакарання сябра арганізацыі Валерыя Шчукіна, калі ён сядзеў у жодзінскай турме. БАЖаўцам нават удалося перадаць у гэтую папраўчую ўстанову цэлую бібліятэку. А сёння ўжо практычна немагчыма прыехаць і пабачыць на ўласныя вочы, што адбываецца ў месцах пазбаўлення волі», — падкрэсліў юрыст.

Паводле слоў Бастунца, аўтары ліста не вельмі спадзяваліся, што адміністрацыя бабруйскай калоніі пойдзе насустрач заклікам БАЖ. «Па вялікім рахунку, так і атрымалася, адказ з большага стаўся фармальнасцю. Тым не менш, стала вядома, што Алесю Бяляцкаму дазволілі дасласць перадачу, хоць мы і не ведаем, ці звязана гэта непасрэдна з нашым зваротам», — сказаў суразмоўца.

ЛІДАР

# МІКАЛАЮ СТАТКЕВІЧУ — 57

**Палітык знаходзіцца ў турме ўжо больш за два з паловай гады. Жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч распавяла сайту charter97.org пра тое, як яны з мужам святкавалі яго дзень народзінаў раней, калі Мікалай быў на волі.**



«Мы заўсёды адзначалі гэтае свята ўдваіх. Часам — з яго сябрамі. Часта гэта адбывалася ў некалькі этапаў — удваіх і больш шырокім колам. Звычайна збіраліся недзе ў горадзе, у кавярні або ў загарадных хатах нашых сяброў», — сказала яна.

Марына Адамовіч таксама распавяла пра тое, чым цяпер займаецца яе муж у турме і ў якіх умовах знаходзіцца.

«Акрамя стандартнага «ў мяне ўсё нармальна» ён нічога не распавядае ў лістах пра ўмовы ўтрымання. Ён звычайна ні на што не скардзіцца. Нядаўна яго перавялі са следчага корпуса ў турэмны. У ліпені адбылося пасяджэнне камісіі, якая зняла з яго статус злоснага парушальніка. Таму цяпер ён мае права на «атаварку» не на 100 тысяч рублёў, як раней, а на 200. Гэта пакуль адзінае паляпшэнне. Што тычыцца таго, чым ён займаецца ў турме, то гэта — спорт, чытанне кніг, вывучэнне англійскай мовы — наколькі гэта магчыма ў тых умовах, у якіх ён зараз знаходзіцца», — сказала яна.

Жонка палітвязня распавяла пра тое, як ёй удалося павіншаваць яго ў мінулым годзе.

«У яго ў камеры ёсць радыёкропка, якая ўключаецца ў пэўны час. Там ёсць перадачы, праз якія можна перадаць віншаванні. Аднак цяпер павіншаваць яго такім спосабам не атрымалася», — распавяла Марына Адамовіч. Яна дадала, што галоўным пажаданнем на дзень нараджэння мужа было пажаданне яго вызвалення.

***

Мікалай Статкевіч нарадзіўся 12 жніўня 1956 года ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча. Абараніў кандыдацкую дысертацыю і выкладаў у МВІЗРВ. Кандыдат тэхнічных навук, падпалкоўнік запасу. 20 жніўня 1991 года публічна выступіў супраць путчу ў Маскве. Тады ж абвясціў пра стварэнне Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

Мікалай Статкевіч быў адным з кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах у 2010 годзе.

26 траўня 2011 года палітык быў асуджаны судом Партызанскага раёна Мінска да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. У мінулым годзе ўмовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія. Яго перавялі з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 Магілёва.

**charter97.org**

*«Новы Час» далучаецца да віншаванняў і жадае Мікалаю Статкевічу хутчэйшага выхаду на волю.*

ПАМЯЦЬ

# ДРУГІ ЭТАП ТАЛАКІ

Марат ГАРАВЫ

**13 жніўня падчас чарговай талакі ў Курапатах каардынатар грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» Ганна Шапуцька заявіла пра тое, што другі этап талакі ў Курапатах пачнецца 7 верасня.**

Паводле яе слоў, у сувязі з летнімі адпачынкамі вырашана перанесці пачатак другога этапу талакі з 15 жніўня на 7 верасня. Другі этап талакі будзе праводзіцца на працягу тыдня штодня акрамя нядзелі, збор удзельнікаў каля Крыжа Пакуты а 12.00, сказала Шапуцька.

Яна звярнула ўвагу на тое, што ў Беларусі ёсць два сусветна вядомых месца злачынстваў таталітарных рэжымаў — Курапаты і Хатынь.

«Яны знаходзяцца недалёка адзін ад аднаго — пад Мінскам і ў Лагойскім раёне Мінскай вобласці, іх адзяляе невялікі час — забойствы ў Курапатах адбываліся ў 1937–1941 гадах, а трагедыя Хатыні — 22 сакавіка 1943 года. Але дзяржава па-рознаму ставіцца да гэтых святых для кожнага беларуса месцаў. Калі ў Хатыні дзяржавай узведзены велічны мемарыял, дык Курапаты ўвогуле знаходзяцца па-за ўвагаю дзяржавы», — сказала каардынатар ініцыятывы.

Гэтую тэму ў інтэрв'ю карэспандэнту НЧ працягнуў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька — удзельнік талакі. Паводле ягоных слоў, наведванне Курапатаў выклікае шматгранныя пачуцці. «Вось я праязджаю каля чарговай новай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. Колькі там людзей завіхаецца, колькі туды рэсурсаў укладваецца. І дзеля чаго патрэбная дванаццатая рэзідэнцыя? А тут, у Курапатах, валанцёры без дапамогі прафесіяналаў і тэхнікі, але з вялікім чалавечым сэрцам робяць справу, якая з'яўляецца абавязкам любой дзяржавы», — сказаў Лябедзька. На ягонае меркаванне, трэба адкрыта гаварыць пра тое, што Курапаты з'яўляюцца месцам велізарнага злачынства ў маштабе ўсёй краіны.

Нагадаем, што шматдзённая талака ў Курапатах пройдзе ў тры этапы. Першы этап, прысвечаны 25-м угодкам публікацыі артыкула «Курапаты — дарога смерці» Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ад 3 чэрвеня 1988 года, праводзіўся штодзень з 27 па 31 траўня і 1 чэрвеня.

Другі этап талакі, прысвечаны гадавіне пераможнай Аршанскай бітвы 8 верасня 1514 года, пройдзе з 7 па 14 верасня, а трэці этап, прысвечаны Дню памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій у Беларусі (29 кастрычніка), — з 21 па 28 кастрычніка. Між этапамі талака адбываецца раз на тыдзень па аўторках (пачатак а 17.00).

ПЕРАСЛЕД



Уладзіслаў Лазар

# УДАР ПА ЎСІХ

Зміцер ГАЛКО

**Віталь Рымашэўскі схільны лічыць справу ксяндза Лазара праявай мэтанакіраванай палітыкі ў дачыненні да хрысціянскай супольнасці як часткі «трэцяга сектару».**

15 жніўня ў сядзібе Партыі БНФ адбыўся круглы стол па справе ксяндза Уладзіслава Лазара, які таемна знік 1 чэрвеня, потым знайшоўся ў СІЗА КДБ, дзе, меркавана, і знаходзіцца ўжо трэці месяц. Хаця ў гэтым няма пэўнасці, бо некаторыя адрасаваныя яму паштоўкі вярнуліся назад. Дасюль не вядома, у чым канкрэтна яго абвінавачваюць. Адзіная афіцыйная інфармацыя, нібыта датычная яго справы, — цмяныя намёкі прэзідэнта на нейкага «здрадніка, які быў звязаны з замежжам праз каталіцкіх святароў».

Удзел у сустрэчы ўзялі каардынатар ініцыятывы «Хрысціянскі рух» Аляксей Шэін, праваабаронцы Ганна Шапуцька і Алег Воўчак, старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзімір Колас, сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі, савецкі палітвязень Сяргей Ханжанкоў, выкладчык катэхізіса Кастусь Шыталь ды іншыя.

Галоўны мэтай круглага было высветліць, як можна дапамагчы Уладзіславу Лазару ў яго становішчы, і арганізаваць гэтую дапамогу. Удзельнікі вырашылі накіраваць свайго прадстаўніка, каб пагутарыць з апостальскім нунцыем Клаўдыё Гуджэроці пасля імшы, якую ён мае адслужыць 16 жніўня ў Браславе. А таксама падрыхтаваць зварот да Папы Францішка. Гэты пункт спачатку выклікаў пярэчанні прадстаўнікоў касцёлу — маўляў, ці не атрымаецца, што мы дзейнічаем праз галаву беларускіх іерархаў, нават ускосна вінавацім іх у бяздзейнасці... Адбылася кароткая, але гарачая палеміка, поўная эмацыйных закідаў у бок кіраўніцтва Беларускага касцёла.

Прапанову пайсці разам да «амерыканкі» сустрэлі скептычнымі заўвагамі: «Нібыта вы не ведаеце, чым такія паходы сканчваюцца... Ну што мы там, язык ім пакажам? Ці камень у акно кінем?»

Адмовіліся таксама ад ідэі падаваць заяўку на правядзенне пікету з прычыны бессэнсоўнасці. Апроч звароту да Папы маюць быць падрыхтаваныя звароты да амбасадараў краін ЕС, у міжнародныя праваабарончыя структуры. Але ў першую чаргу — зварот да беларускіх уладаў, подпісы пад якім плануецца збіраць у касцёлах. Будзе арганізавана падтрымка сям'і ксяндза Уладзіслава Лазара, чыя старая маці ляжыць зараз у шпіталі. Грошы на яе пачалі збіраць адразу за круглым сталом.

Віталь Рымашэўскі выказаў меркаванне, што беларусам уласцівая «сектанцкая свядомасць», і не толькі ў рэлігійнай сферы. Маўляў, я належу да гэтай групы, а што там робіцца з астатнімі — мяне не цікавіць і не павінна турбаваць. Ён заклікаў адмовіцца ад такой тупіковай і пагібельнай свядомасці. Удар па адным трэба ўспрымаць як удар па ўсіх.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДАРАГОЕ ЛЕТА

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Усім вядома, што беларусы ўмеюць і любяць працаваць. Але адпачываць яны таксама любяць, і калі адпачываюць, то ўжо напоўніцу. На тое, што зарабілі сваёй цяжкай працай за год, яны «адцягваюцца» ў летні адпачынак. Але што беларусу добра, тое стварае праблемы для краіны.**

Пікам сезону адпачынку традыцыйна з'яўляецца ліпень — жнівень. Дык вось, сёлета сваімі адпачынкамі паважаныя грамадзяне стварылі праблему беларускім банкам. Насельніцтва Беларусі ў ліпені не толькі на фоне адпачынкаў, але і на фоне рэзкага росту дэвальвацыйных чаканняў, забяспечыла банкам рублёвы абвал.

Па дадзеных Нацбанка, у ліпені ўклады насельніцтва ў беларускіх рублях скараціліся на 9,3% (з улікам адсоткаў і пераводных дэпазітаў), або на 3,28 трыльёна беларускіх рублёў (370 мільёнаў долараў). Частка знятых з дэпазітаў рублёў (максімум 2,57 трыльёна рублёў) пасля канвертавання ў валюту магла сысці ў валютныя ўклады: валютныя дэпазіты фізічных асоб у ліпені выраслі на 4,4%, ці на 290 мільёнаў долараў. Але куды падзеліся беларускія рублі ў эквіваленце 80 мільёнаў долараў?

Аналітыкі лічаць, што прыкметная частка «зніклых» рублёвых дэпазітаў была канвертаваная ў наяўную валюту, «якую насельніцтва адмовілася давяраць банкам». Але, хутчэй за ўсё, людзі проста вырашылі патраціць грошыкі дзе-небудзь на цёплым моры.

Варта нагадаць, што ў ліпені чыстая купля валюты грамадзянамі РБ склала 621 мільён долараў, а для прадухілення крызіснай сітуацыі з адтокам укладаў Нацбанку давялося апаратыўна стварыць на рынку дэфіцыт рублёвай ліквіднасці з тым, каб рэзка павысіць працэнтныя стаўкі па рублёвых дэпазітах і тым самым збіць панічную хвалю.

Але за шыкоўным адпачынкам наступае іншая праблема: дзе ўзяць грошы на далейшае жыццё? «Постадпачынкавы» сіндром тых, хто патраціў усё дашчэнту, але заробак атрымае толькі праз месяц, вядомы шмат каму. Пра гэта клапоціцца дзяржава.

Не пра ўсіх, канешне, а пра найбольш абяздоленых. 3 12 жніўня падпісаны ўказ аб тым, што студэнцкія атрады змогуць працаваць зараз не толькі ў перыяд летніх вакацыяў, але і на працягу навучальнага года — з верасня па май.

«Указам №356 прадугледжваецца залічэнне вучняў у склад студэнцкіх атрадаў у перыяд з верасня па май па ўзгадненні з кіраўніком установы адукацыі па месцы вучобы студэнта (навучэнца). Пры гэтым захоўваецца паняцце трэцяга працоўнага семестра (з 1 мая па 30 верасня) як найбольш актыўнага перыяду для працы студэнцкіх атрадаў», — гаворыцца ў афіцыйным каментары.

Дакумент прыняты «ў мэтах павышэння эфектыўнасці арганізацыі часовай працоўнай занятасці моладзі ў вольны ад вучобы і асноўнай працы час на працягу ўсяго каляндарнага года».

Гэта цікавая спроба вырашыць адразу дзве праблемы. Адна — падвысіць заробкі студэнтаў. Другая — вельмі важная. Як вядома, шмат будаўнікоў з Беларусі з'ехала на працу за мяжу. Зараз студэнты будуць замяшчаць на айчынных будоўлях тых, хто паквапіўся на доўгі рубель ці долар замежных працадаўцаў.

Але застаецца пытанне: якім чынам створаныя ў вучэбны час будатрады паўплываюць на якасць навучання? Гэтае пытанне ўжо мала каго хвалюе. Сапраўды, «тройку» студэнту заўсёды паставяць, стыпендыю з-за нізкай паспяховасці здымуць, але навошта яму тая стыпендыя, калі ён зарабляе? Гора толькі, калі на прадпрыемствы, у лякарні ды школы прыйдуць такія «маладыя спецыялісты», якія замест вучобы падымалі народную гаспадарку.

Дарэчы, пра гаспадарку і маладых спецыялістаў. Тым, хто размяркоўваецца ў розныя «аграгарадкі», таксама падкінулі цукерачку. Зараз тыя, хто паехаў па размеркаванні ў калгас, будуць атрымліваць штомесячныя даплаты. Маладым спецыялістам з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, прынятым на працу ў арганізацыі АПК, на працягу двух гадоў іх працы ўсталёўваюцца штомесячныя даплаты ў двухразовым памеры тарыфнай стаўкі першага разраду, устаноўленай урадам для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый.

Кіраўнікам і спецыялістам з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, якія адпрацавалі ў арганізацыях АПК два гады па размеркаванні і якія працягваюць працаваць у гэтых арганізацыях на ўмовах заключаных кантрактаў, усталёўваюцца штомесячныя даплаты на працягу наступных трох гадоў у трохразовым памеры тарыфнай стаўкі першага разраду за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, прадугледжаных на развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, рыбаводства і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі.

Ці спыняць гэтыя захады марафонскі бег маладых спецыялістаў з месцаў размеркавання? Наўрад ці. Маладыя людзі скардзяцца не толькі на нізкія заробкі, але і на шмат што іншае: на кепскія ўмовы працы, дрэнныя ўмовы пражывання і гэтак далей. Дый кінутая ім «костка» — не вельмі салодкая, бо тарыфная стаўка першага разраду зараз складае толькі 250 тысяч рублёў.

Але ж нашае АПК квітнее, і будзе квітнець надалей, бо пра яго клапоцяцца нават такія людзі, як мэр Мінска Мікалай Ладуцька. Ён наведаў Мінскі падшыпнікавы завод і знайшоў прасвятленне: гэтаму прадпрыемству абавязкова трэба наладзіць «імпартазамяшчальную вытворчасць». Можа, ён прапанаваў прадпрыемству выпускаць нейкія рухавікі? Не! Размова ідзе аб вытворчасці сякер і ручных косаў!

«Цяпер на МПЗ выпускаюць 40 тысяч сякераў на год. А трэба выпускаць 400 тысяч і прадаваць гэтую прадукцыю ў Расію, Украіну. Неабходна зарабляць, таму ўключайцеся ў гэтую працу», — заклікаў працоўных старшыня Мінгарвыканкама.

Больш за тое, як паведамляюць афіцыйныя «Минск-новости», падчас візіту на ААТ «МПЗ» Ладуцьку «прадэманстравалі ўзоры айчыннай і імпартнай прадукцыі, распавялі пра перспектывы працы па ўдасканаленні спажывецкіх характарыстык тавару і павелічэнні аб'ёмаў вытворчасці».

Вось табе і пытаннечка: як удасканаліць і мадэрнізаваць звычайную сякеру? Трэба было да гэтага пытання яшчэ Акадэмію навук падключыць, іншыя холдынгі і канцэрны. То была б у нас нанасякера з сэнсарным дысплеем і лазерным прыцэлам.

Між тым, як сцвярджаецца на сайце МПЗ, Мінскі падшыпнікавы завод — гэта сучаснае, высокатэхналагічнае, экспартаарыентаванае машынабудаўнічае прадпрыемства. ААТ «МПЗ» уваходзіць у дзясятку найбуйнейшых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь і з'яўляецца адным з вядучых вытворцаў падшыпнікаў ва Усходняй Еўропе і СНД.

Зараз гэта будзе яшчэ і вытворчасць нанасякераў.



## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СВЯТЛАНА МАРКІЯНАВІЧ



Беларуска Святлана Маркіянавіч нейкім дзіўным чынам здолела трапіць у палон да сірыйскіх паўстанцаў.

Відэаролік пра тое, што дзве дзяўчыны, якія назвалі сябе грамадзянкамі Беларусі і Малдовы Святланай Маркіянавіч і Карынай Кальцо, патрапілі ў палон да сірыйскіх паўстанцаў, быў апублікаваны на YouTube 9 жніўня. Зачытваючы сваю прамову па паперы пад рулямі стрэльбаў людзей у чорных масках, яны кажуць, што прыехалі ў Сірыю пад выглядам журналістак і працуюць на «Хэзбала».

Што тычыцца беларускі, то акаўнты дзяўчыны Святланы Маркіянавіч ёсць у сацыяльных сетках. Мяркуючы па фота, апублікаваных там, гаворка ідзе аб тым жа чалавеку, які зняты ў відэаролiку. Святлана Маркіянавіч жыла ў Жодзіна, ёй 30 гадоў. Апошні раз яна заходзіла на сваю старонку ў «Аднакласніках» 17 чэрвеня 2013 года, а «Вконтакте» — 14 чэрвеня.

Міністэрства замежных спраў Беларусі вывучае абставіны з'яўлення ў сетцы відэароліка, у якім жанчына называе сябе беларускай, якая патрапіла ў палон да сірыйскіх паўстанцаў. Пэўныя надзеі на вызваленне дзяўчыны дае тое, што, мяркуючы па відэа, у палон яе захапілі байцы Свабоднай сірыйскай арміі — адносна спакойнай, памяркоўнай і адказнай групоўкі паўстанцаў.

Вось гэта называецца — экстрэмальны турызм.

### АЛЯКСАНДР ЛУКАШАНЕЦ



У школах даюць дастатковыя веды па беларускай мове. З такой заявай выступіў старшыня Міжнароднага і Беларускага камітэтаў славістаў, член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец.

«Сістэма сярэдняй адукацыі сёння дае дастатковыя веды па беларускай і рускай мовах, каб выкарыстоўваць іх паралельна», — падкрэсліў вучоны. Веданне беларусамі роднай мовы Аляксандр Лукашанец ацаніў як даволі высокае, таму неабходнасці адкрываць у краіне спецыяльныя курсы па беларускай мове ён не бачыць.

Між тым, усю «добрую сітуацыю» з беларускай мовай ілюструе той факт, што ў гэтым годзе на цэнтралізаванае тэставанне па беларускай мове запісалася ў два з паловай разы менш абітурыентаў, чым па рускай, — 33 564 «беларускамоўных» супраць 83 829 «рускіх».

Увогуле, больш за 40 тысяч тых, хто заявіўся на тэставанне, не набралі мінімальныя прахадныя балы хаця б па адным прадмеце. А гэта амаль 36% ад усіх, хто здаваў ЦТ. І гэта пры тым, што Міністэрства адукацыі Беларусі ўвяло градацыю балаў, якія дазваляюць паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны. Так, беларускую і рускую мовы дастаткова здаць на 10 балаў, хімію, фізіку, матэматыку і біялогію — на 15, геаграфію, грамадазнаўства, замежныя мовы, гісторыю Беларусі і сусветную гісторыю — на 20. Калі б усё ЦТ неабходна было здаць хоць бы на 20 балаў, то вынікі былі б яшчэ больш сумнымі. Як уяўляецца, было б правалена мінімум кожнае чацвёртае ЦТ у краіне.

### СЯРГЕЙ ДАРОШКА



Начальнік Дэпартамента выканання пакаранняў МУС палкоўнік Сяргей Дарошка ўзнагароджаны медалём «За бездакорную службу» I ступені.

Палкоўнік Сяргей Дарошка ўжо быў узнагароджаны названым медалём II ступені. Зараз ён з'яўляецца ўладальнікам усіх ступеняў медаля «За бездакорную службу», узнагароджанне якім праводзіцца за дзесяць, пятнаццаць і дваццаць каляндарных гадоў бездакорнай службы адпаведна.

Усё б нічога, але... У пачатку жніўня стала вядома пра забойства ў мінскім СІЗА Ігара Пцічкіна. Мінчанін быў асуджаны на два месяцы арышту судом Заводскага раёна. 30 ліпеня ён прыбыў у РУУС Заводскага раёна, адкуль быў этапаваны ў СІЗА №1 на вуліцы Валадарскага ў Мінску, дзе павінен быў адбываць пакаранне.

Праз чатыры дні супрацоўнікі турмы патэлефанавалі маці Ігара Пцічкіна і паведамілі аб яго смерці. Ёй сказалі, што ў хлопца, які ніколі нічым сур'ёзным не хварэў, адбылося спыненне сэрца. Без дазволу маці яго цела адправілі ў морг і зрабілі ўскрыццё. Пазней, падчас працэдуры апазнання, родныя ўбачылі шматлікія гематомы, сінякі, раны. Няўзброеным вокам былі відаць прыкметныя пераломы рэбраў, а на запясцях — бачныя сляды бранзалетаў і адкрытыя раны.

СІЗА №1 — гэта «вотчына» нашага «бездакорнага» палкоўніка.

БЕЛАРУСЬ — ЭСТОНІЯ

# КРАІНА, ДЗЕ НЕ ТРЭБА

Зміцер ГАЛКО

**Краінамі Балтыі даволі часта палохае насельніцтва дзяржаўная прапаганда ў Беларусі і Расіі, каб запэўніць у правільнасці выбару на карысць адмаўлення ад заходняй цывілізацыйнай мадэлі.**

Калі мяне, як і сотні іншых, судзілі 20 снежня 2010 года за ўдзел у вядомых падзеях, я супрацоўнічаў з «Радыё Свабода». Адзін з маіх канваіраў у калідоры суда пацікавіўся тады ў свайго напарніка, а што гэта за радыё такое, ніколі не чуў. Той яму даволі вобразна патлумачыў: «У Прыбалтыцы глазураваны сырок каштуе два еўра. Я там быў, ведаю. Калі хочаш, каб у нас сырок каштаваў два еўра, слухай гэта радыё». Спалохаўшыся такой перспектывы, маладзенькі міліцыянт паабяцаў ніколі яго не слухаць.

## Не такі страшны глазураваны сырок

Краінамі Балтыі даволі часта палохае насельніцтва дзяржаўная прапаганда ў Беларусі і Расіі, каб запэўніць у правільнасці выбару на карысць адмаўлення ад заходняй цывілізацыйнай мадэлі. Апроч таго, што там сыркі па два еўра за штуку, яшчэ і развалена прамысловасць, знішчана сельская гаспадарка, ліквідавана сацыяльная інфраструктура (ЖКГ, адукацыя, медыцына, спартыўна-аздараўленчыя ўстановы, грамадскі транспарт ды інш.), а насельніцтва масава ўцякае за лепшай доляй. Вось вам вынік свабоды і дэмакратыі, вось вам і Еўрасаюз. Бойцеся і моцна трымайцеся за нашу цвёрдую руку, нават і не глядзіце ў той бок.

Прыехаўшы ў Эстонію, я першым чынам адправіўся ў краму, каб паглядзець на той страшны глазураваны сырок. Сыркі каштавалі ад 0,19 да 0,5 еўра ў залежнасці ад вагі і начыння. Значыць, падумалася мне, расповеды пра гаротнае жыццё ў краінах Балтыі можна смела дзяліць як мінімум на чатыры.

## Крах аграімперыі

Але ж ядуць яны, вядома, пластыкавае мяса і пенапластавы гарнір? Бо калі там няма калгасаў, адкуль узяцца сельскай гаспадарцы? Адна палова насельніцтва гандлюе, іншае набывае, так і ходзяць з гіпермаркета ў банк і назад, выраблядь прадукцыю няма каму… У іх жа не было прэзідэнта, які б запусціў заводы і пабудаваў аграгарадкі.

Мяне складана западозрыць у наіўным даверы да прапаганды, тым не менш яе масіраванасць і навязлівасць зрабілі сваю справу. Я чакаў убачыць зарослыя хмызняком і пустазеллем палі, постапакаліптычны прамысловы пейзаж з руінаў заводаў і фабрык, а пасярод гэтага — буйнне рэкламнага буралому, зазыўныя агні забаўляльных установаў, у якіх адпачываюць тыя, хто паразітуе на агульным развале. Бляск і галечу, раскошу і жах…

Потым я неяк абвыкся, калі праехаў Эстонію ўздоўж і ўпоперак, але напачатку, шчыра прызнаюся, у мяне нават галава закружылася адмільгання палёў з разнастайным ураджаем за вакном аўтобуса.

З аднаго боку, ну што тыя палі, і наогул сельская гаспадарка? Калі глядзець на яе праз прызму чыста эканамічных паказчыкаў, яна выглядае чымсьці трэцеразрадным і неабавязковым. У Беларусі сельская гаспадарка дае 7,5% ВУП, у Эстоніі — 3,7% (пры ВУП на душу насельніцтва, пералічаным па парытэце пакупніцкай здольнасці, каля 15 тысяч долараў у Беларусі і 20 тысяч — у Эстоніі). Цьху — і расцерці.

Не магу, сялянскія карані не дазваляюць так на яе глядзець. А таксама мудрасць аднаго з апошніх вялікіх правадыроў паўночнаамерыканскіх індзейцаў, які сказаў: «Калі будзе ссечана апошняе дрэва, калі будзе атручана апошняя рака, калі будзе злоўлена апошняя птушка, — толькі тады вы зразумееце, што грошы нельга есці».

Сельская гаспадарка стала не проста канькомі фетышам у Беларусі, яна вырасла да маштабаў унікальнай з'явы, на ўзроўні васьмага цуда свету. Гэты вобраз падмацоўваўся шматлікімі ахамі і охамі гасцей з Расіі над нашымі палямі, садамі і статкамі, як быццам Беларусь — апошняе месца, дзе яны засталіся. Таму я быў крыху расчараваны — не апошняе. Эстонцам у бліжэйшы час таксама не пагражае перспектыва харчавацца грашыма.

Яны не толькі забяспечваюць сябе асноўнымі прадуктамі, але і экспартуюць іх у Расію, Латвію, Фінляндыю і Літву. Усяго за мінулы год Эстонія экспартавала сельскагаспадарчай прадукцыі на 1,163 мільярда еўра (2,08 мільярда долараў). А Беларусь — увага! — на 5 мільярдаў долараў, то бок усяго толькі ў 2,4 разы болей. Нагадаю, што тэрыторыя Эстоніі прыкладна ў пяць разоў меншая за тэрыторыю Беларусі, а насельніцтва — у 6,7 разы. Прашу прабачэння ў тых, хто дасюль верыў у Беларусь як у вялікую аграімперыю. Мне і самому давялося расстацца з ілюзіямі.



Эстонія з вышыні птушынага палёту



Пабудова каменнай агароджы



Шатландская высакагорная карова з цялём

## Каровы займаюцца ландшафтным дызайнам

Зрэшты, ну іх, тыя сухія лічбы. Лепей я раскажу, як сам міжволі ахнуў, нібы той расіянін, убачыўшы на выспе Саарэмаа незвычайную сельгасжывёлу. Спачатку мне падалося, што гэта экзатычныя які, тыбецкія быкі. Магутны корпус, застрашлівыя рогі, густая кудлатая поўсць, нейкі легкадумны хуліганскі чубчык, што спадае на вочы.

Мая праважатая, гід Марыя Пеэп, патлумачыла, што гэта высакагорныя шатландскія каровы, жывёлы шматфункцыянальныя. Яны ўстойлівыя да суровага клімату — ім не страшны дождж, вецер, мароз і снег. Таму гэтыя каровы ўвесь год знаходзяцца пад адкрытым небам, што мінімізуе выдаткі на іх утрыманне. Вылучаюцца доўгажыхарствам і працягваюць пладзіцца нават пасля 18 гадоў. Не баяцца ваўкоў, што актуальна для Саарэмаа, дзе драпежнікі сталі сапраўдным бедствам для авечкагадоўцаў. Мяса з паніжаным узроўнем тлушчу і халестэрыну, а пратэіну і жалеза ў ім больш, чым у звычайнай ялавічыне.

Апроч таго, яны выконваюць экалагічную і ландшафтна-дызайнерскую функцыю. Кароўкі ядуць маладыя кусты, нават ядловец, не даючы зарастаць палям мясцовых фермераў. А галоўнае — упадабалі трыснёг і актыўна расчышчаюць ад яго берагі.

Хіба ж не крэатыўны падыход? Адным стрэлам — адразу трох зайцоў.

Статак шатландскіх высакагорных кароў завезлі сюды на грант, атрыманы ў Еўрапейскім фондзе рэгіянальнага развіцця. Раздалі на ўтрыманне хутаранцам. Калі карова ацеліцца, цяля можна пакінуць у сябе, а карову перадаць суседу.

## «Заняпад Еўропы» адкладаецца

Калі ўжо зайшла гаворка пра дызайн, згадаю архаічныя каменныя агароджы, зробленыя без цэменту, якія разам з саламянымі стрэхамі і натуральнымі донкіхоцкімі млынамі надаюць Саарэмаа вельмі старажытны выгляд. Такія агароджы апаясвалі амаль усе хутарскія ўгоддзі, што я бачыў. Пытаюся ў Марыі, як толькі не разбурыліся за столькі часу? Высветлілася, што некаторыя з іх зроблены зусім нядаўна. У рамках праекта, прафінансаванага сумесна ўрадам Эстоніі і ЕС. У залежнасці ад вышыні, гаспадарам хутароў плацілі ад 20 да 35 еўра за метр такой агароджы. Праца вельмі няпростая, але некаторыя хутаранцы ўзвялі сапраўдныя кітайскія сцены.

Мясцовыя атрымалі працу, турысты — прыемны для вока пейзаж, Саарэмаа ў цэлым — стратэгічную інвестыцыю. А я атрымаў разуменне, што глыбіня і цяжар крызісу ў краінах ЕС крыху перабольшаныя. Калі магчымае ажыццяўленне падобных праектаў, я мяркую, заняпад Еўропы адкладаецца.

## Як даехаць

Пра Эстонію беларусы ведаюць мала з прычыны адсутнасці агульнай мяжы і няззручнага транспартнага злучэння. Туды не ездзяць цягнікі і наўпрост не лятаюць самалёты, а 12-гадзінную паездку ў аўтобусе не кожны вытрымае.

Як папярэдзіў мяне перавозчык VR Lines на квітку: «Пасажыр павінен усведамляць, што далёкая паездка на аўтобусе аказвае цяжкі ўплыў на псіхіку і здароўе». Толькі ён забыў дадаць — «асабліва ў нашым аўтобусе», дзе мне давялося ехаць на заднім сядзенні з сагнутымі ўсю дарогу каленамі. Мой сусед, беларускамоўны праграміст Міхась Боўтылін, які ехаў у Талін на працу, з'едліва адгукнуўся: «Такое ўражанне, быццам мы ў нейкі Крым едзем».

Дагэтуль ён карыстаўся паслугамі канкурэнта, якога ўзгадваў самымі цёплымі словамі. І вы карыстайцеся, калі надумаеце ехаць у Эстонію, знойдзеце праз інтэрнэт.

Варта толькі даехаць. Перамяшчаючыся на аўтобусе ўнутры краіны, нават калі давядзецца ехаць 6–7 гадзінаў (бывае і такое, Эстонія ўсё-ткі не карлікавая краіна), вы забудзеце пра тое, што «паездка на аўтобусе аказвае цяжкі ўплыў на псіхіку і здароўе». Прасторна, камфортная тэмпература — выцягвай ногі і спі сабе. Прыбіральня не зачынена, тэлефон можна падзарадзіць.

Не ведаю, каму належыць кампанія VR Lines, але каму б ні належала, відавочна, уладальнік упэўнены, што беларусам «і так сыдзе». Трэба мяняць гэтае ўражанне.

## Навошта ехаць

А навошта туды ехаць, спытаецеся вы, чаго мы там не бачылі? Пра мясцовыя славутасці і цікавосткі можна прачытаць у турыстычным даведніку. Іх нямала, нягледзячы на сціплыя памеры тэрыторыі. Я ж згадаю некаторыя дробязі, якія выпадаюць з-пад увагі ў турыстычных даведніках. Бо ў дробязях хаваецца не толькі д'ябал, але і самы цымус.

У былых «брацкіх рэспубліках» мяне заўжды вельмі раздражняла першая рэакцыя шараговых жыхароў на беларускага госця. Маю на ўвазе абавязковыя кампліменты «вашаму Бацьку». Праз іх я даволі

# АДКАЗВАЦЬ ЗА «БАЦЬКУ»

часта лічыў за лепшае наогул прадстаўляцца кім-небудзь іншым, не беларусам, гэтак надакучвала тлумачыць, што "ён мне не бацька". Хіба гэта не абразліва, калі дзевяцімільённы народ выступае ў ролі прыдатка аднаго палітычнага дзеяча? Чыя абранасць гэтым самым народам, да таго ж, выклікае небеспадстаўныя сумневы.

Дык вось, Эстонія стала першай «брацкай рэспублікай», дзе мне не даводзілася адказваць за «Бацьку».

## Хоць у пекле згарыце, калі хочаце

У расіян ёсць рыса характару, якую адны лічаць «непасрэднасцю», іншыя «нахабствам» — казаць свайму суразмоўцу тое, што думаюць, нават па самых спрэчных пытаннях. Асабліва не пераймаючыся, ці не абражаюць яны яго, ці не наступаюць на мазоль. Часцяком усходні сусед будзе ведаць лепей за вас, што для вас добра, а што дрэнна. Аднойчы масквіч у цэнтры Вільні (!) павучальным тонам тлумачыў мне, чаму я мушу падтрымліваць палітыку беларускага прэзідэнта.

Эстонцы ўяўляюць сабой поўную супрацьлегласць расіянам. Яны вельмі асцярожныя ў міжасабовых зносінах. І калі не будуць упэўнены, як вы ставіцеся да таго ці іншага пытання, абыдуць яго бокам. Або спачатку запытаюцца, што вы на гэты конт думаеце. Калі ж памыляцца ў ацэнцы вашых поглядаў і дазволяць сабе «няправільнае» выказванне, хутчэй выправяць «памылку», чым будуць настойваць на сваім.

З гэтай прычыны эстонцы, бывае, няўхвальна адгукаюцца пра Эвелін Ільвэс, жонку свайго цяперашняга прэзідэнта (так, у прэзідэнта ёсць жонка, жыццю і дзейнасці якой прысвечаны вялікі раздзел прэзідэнцкага сайта). На іх погляд, спадарыня Ільвэс дазваляе сабе «ментарскі тон» у публічных выказваннях. Яна можа ўсяго толькі прапагандаваць спажыванне экалагічных прадуктаў, даваць парады па садоўніцтву, кулінарыі ці рукадзеллю, а ёй за гэта прыпісваюць «амерыканскія замашкі». Хаця не яна, а яе муж шмат часу пражыў у ЗША. Ну не падабаецца эстонцам схільнасць прадстаўнікоў «вялікіх народаў» да безапеляцыйных выказванняў.

Вы можаце, напрыклад, уявіць сабе баптысцкага прапаведніка, які падчас размовы з вамі ніводнага разу не скажа, што вам трэба рабіць дзеля таго, каб выратавацца? Некалькі гадзін я праехаў па Эстоніі ў аўтобусе побач з Лехо Палдрэ, пастарам баптысцкай царквы «Галгофа» з Тарту. Ад самага пачатку і да канца дарогі мы размаўлялі з ім аб тым аб сім. І ён нават не папярэдзіў мяне пра пагрозу гарэць у пекле, калі я не прыму правільны хрост і не стану на шлях выпраўлення. Я б падумаў, што яго проста не хвалюе лёс неэстонца, калі б яго царкву не наведвалі таксама мясцовыя рускія.

У Львове я аднойчы вымушаны быў адказваць на папрок: «Чаму вы дасюль яго не зрынулі?» Не скажу, каб чуць гэта было прыемней, чым згаданы вышэй камплімент. Што да эстонцаў, ад іх я не пачуў ані абразлівых кампліментаў, ані крыўдных папрокаў.

## «Калі піва не піт, гарэлка не піт...»

Я спытаўся ў Лехо, ці не безнадзейны гэта занятак — быць хрысціянскім прапаведнікам у самай атэістычнай краіне свету? Паводле дадзеных транснацыянальнай даследчай кампаніі «Gallup», толькі 14 працэнтаў эстонцаў станоўча адказалі на пытанне, ці займае рэлігія важнае месца ў іх жыцці. Амаль у два разы меней, чым сярод беларусаў. Найменшы паказчык у свеце. Пастар жвава адгукнуўся: «Затое якая прастора для дзейнасці!»

Пазней я распавёў пра яго рэакцыю святару Эстонскай апостальскай праваслаўнай царквы Афрату Лаасу, у якога абыякавасць да рэлігіі сярод эстонцаў выклікае сум. Я чакаў, што айцец Афрат грэбліва паморшчыцца ад згадкі «сектанта» і буркне што-небудзь з'едлівае. Але ён мяне здзівіў, сказаўшы з усмешкай: «Дык пратэстанты любяць працаваць. А мы, праваслаўныя, не вельмі».

Зрэшты, не толькі баптысцкі пастар, але і 53-гадовы хіпі («адзіны хіпі на ўсю акругу!») з вёскі Вярска, які жыве на сацыяльную дапамогу па беспрацоўі — яму аплачваюць камунальныя выдаткі і даюць на рукі 76 еўра — не аддаецца жалю да сябе і свайго становішча: «Калі піва не піт, гарэлка не піт, галавой думат, усё будзе добра».

У тым, што ўсё будзе добра ў таго, хто здольны «галавой думат», быў упэўнены і рамеснік, які гандляваў сувенірамі ўласнай


Лехо Палдрэ, баптысцкі пастар


Святар Афрат Лаас


Прэзідэнт Ільвэс з жонкай

вытворчасці на супрацьлеглым канцы Эстоніі, на выспе Саарэмаа. За апошнія гады гандаль у яго пагоршыўся — колькасць турыстаў расце, але яны ўсё меней схільныя набываць саматужныя вырабы. Ну, трэба пашукаць іншыя месцы збыту — і ён ездзе ў Швецыю на святочныя кірмашы. Яму самому ўжо цяжкавата «варушыцца», але сын таксама раптам захапіўся рамесніцтвам, ёсць надзея, што справа не загіне.

Не ўспрымаць цяжкую сітуацыю фатальна безнадзейнай, у якой можна толькі гараваць і зайздросціць тым, у каго яна лепей, — яшчэ адна рыса эстонскага характару.

## Жыроўкі і жыллёвыя магчымасці

Пры жаданні, эстонец мог бы знайсці нагоду пазайздросціць беларусу — зірнуўшы, напрыклад, у яго жыроўку.

Аплата жылля і камунальных паслуг — вельмі балюча адчувальная графа расходаў для жыхароў Эстоніі. Кіроўца Андрэй Крыкуноў з невялікага гораду Курэсаарэ (13,5 тысячы чалавек), што на выспе Саарэмаа, займаючы двухпакаёвую кватэру, плаціць за яе ўлетку 50 еўра. Узімку яму даводзіцца плаціць ужо каля 100 еўра. Пры тым, што ён карыстаецца пячным ацяпленнем. Бібліятэкарка Таццяна Ганюкова з Нарвы (59 тысяч чалавек) плаціць за такую ж кватэру каля 150 еўра ў ацяпляльны сезон. Журналіст Аляксей Гюнтэр за кватэру ў 80 квадратных метраў у Таліне мінулай зімой плаціў 270 еўра. Панельны дом у раёне Ласнамяэ, 1989 года пабудовы. У нас такую суму плацяць хіба ўладальнікі кватэраў у доме «Ля Траецкага».

Мне мінулай зімой давялося аднойчы заплаціць за трохпакаёўку каля 60 еўра. І гэта быў сапраўдны шок. Большая сума аплаты камуналкі ў мяне неяк у галаве не ўкладваецца.

Паводле Дзяржкамстату, у гэтым годзе на аплату камунальных паслуг беларус аддаваў 5,8% ад сумы намінальнага налічанага сярэднемесячнага заробку. Гэта ўмоўная лічба глядзіцца вельмі выгадна ў параўнанні з выдаткамі эстонца, які аддае на «камуналку» ажно 18% сваіх даходаў.

Чым не нагода пазайздросціць беларусу, пахваліць палітыку беларускай улады, якая не абдзірае сваіх грамадзян? Аднак эстонцы не схільныя рабіць паспешлівыя высновы. Ніхто з тых, каму я казаў пра памер камунальных плацяжоў у Беларусі, не выказваў жадання з'ехаць у нашу краіну ці пазычыць ім беларускага прэзідэнта хаця б на адзін тэрмін (просьбу «пазычыць прэзідэнта» можна было раней часта пачуць ад расіянаў і украінцаў).

І не толькі праз сваю прыродную стрыманасць яны маўчалі. Эстонцы схільныя дбайна ўсё ўзважваць. Бо тую кватэру спачатку яшчэ трэба набыць. Калі ж параўнаць умовы набыцця ўласнай кватэры, акажацца, што эстонец знаходзіцца ў значна лепшым становішчы, чым беларус. Як падлічыў аналітык у галіне нерухомасці Тыну Тоомпарк, на сярэдні эстонскі заробак можна набыць двухпакаёвую кватэру плошчай 51 квадратны метр у спальным мікраёне Таліна. Вядома, не адразу, а ўзяць на яе крэдыт з тэрмінам выплаты ў 25 гадоў. Муж з жонкай могуць набыць ужо трохпакаёўку пры сярэднім заробку ў абодвух.

Каб прэтэндаваць на аналагічную кватэру, паводле падлікаў «Камсамольскай праўды», беларус павінен атрымліваць заробак удвая большы за сярэдні па сталіцы (не па рэспубліцы) — каля 1,6 тысячы долараў. І не мець іншых выплат па крэдытах. Пры гэтым банк аплаціць толькі 80 працэнтаў кошту кватэры. З сярэднерэспубліканскім заробкам нават пра пакой у Шабанах застаецца толькі марыць.

Міжволі пачнеш чухаць патыліцу: што лепей — мець адносна простую магчымасць абзавесціся сваёй кватэрай ці жыць разам з сям'ёй у некалькі пакаленняў, затое плаціць адносна невялікія грошы за камунальныя паслугі?

## «Народная» Беларусь супраць «буржуазнай» Эстоніі

Апроч таго, адрозніваюцца не толькі жыроўкі, адрозніваюцца і заробкі. Возьмем сціплую стаўку бібліятэкара ў Нарве — не самым, скажам так, квітнеючым эстонскім горадзе. Таццяна Ганюкова атрымлівае чыстымі 400 еўра. (Гэта не шмат, у суседнім горадзе мясцовы савет плаціць сваім бібліятэкарам ужо 600 еўра.) Пасля аплаты камунальных плацяжоў узімку ў яе на руках застаецца 250 еўра або 2,9 мільёна ў пераліку на беларускія рублі. Тады як Нацыянальная бібліятэка Беларусі запрашае бібліятэкара на 2 мільёны рублёў.

Розніца, вядома, не вельмі спакушальная, але я пра іншае. Беларуская ўлада пастаянна гаворыць, што нідзе так не клапоцяцца пра «простага чалавека», як у нашай краіне. Без яе клопату будзе яму гамон і мядзяны тазік, бо ва ўсім астатнім свеце пануюць воўчыя законы, «простаму чалавеку» там жыцця няма — з'ядуць з трыбухамі.

Улады Эстоніі на ролю такога клапатлівага дабрадзея не прэтэндуюць. І «народалюбівай» рыторыкай не карыстаюцца. «Мы ж будуем амерыканскі, а не еўрапейскі капіталізм. Гэта вялікая розніца. Наша кіроўная партыя кажа, што калі ты бедны, ніхто ў гэтым, апроч цябе самога, не вінаваты», — тлумачыць журналіст газеты «Saarte Haal» Тыну Прэй з ледзь заўважнай з'едлівай усмешкай. Яму гэта не падабаецца, ён аддае перавагу скандынаўскай мадэлі гуманнага капіталізму.

Пра арыентацыю менавіта на гэту мадэль цвердзіць і беларуская ўлада. Аднак ад гэтай рыторыкі кашалёк беларускага бібліятэкара чамусьці не робіцца таўсцейшым за кашалёк калегі з буржуазнай Эстоніі. Калі ж возьмуцца параўноўваць свае кашалькі з эстонскімі калегамі нашы настаўнікі і лекары, баюся, ім стане вельмі сумна. І розніца ў аплаце камунальных паслуг не суцешыць.

Пільны баец ідэалагічнага фронту мог бы тут мяне падлавіць: калі ў эстонскіх настаўнікаў і лекараў так усё добра, чаго яны баставалі летась? Нашы вунь не бастуюць, значыць, задаволеныя тым, што дае ім народная ўлада!

У Эстоніі не адкрыты філіял раю на грэшнай зямлі, таму добра там далёка не ўсё і не ўсім. Адзінае дык дакладна добра — яе грамадзяне не з'яўляюцца безаблічнай масоўкай, чые думкі і настроі пастаянна агучвае нехта іншы, прыпісваючы разам з тым сабе ўсе іх агульныя дасягненні. «Народнай» улады няма, а народ ёсць. Гэтыя памылкі і дасягнутыя ёй поспехі — гэта яго, эстонскага народа, памылкі і яго поспехі. Яны не толькі беларускага прэзідэнта не будуць узгадваць у размовах з вамі, пра сваіх палітыкаў эстонцы таксама гавораць няшмат. Чым іх адарыла або чаго ім недадала ўлада — не тэма размовы для эстонцаў. Ім цікавей разважаць пра тое, што яны зрабілі ці хацелі б зрабіць самі.

(Працяг будзе)

## 23 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА




**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**10.05** Камедыйны серыял «Каралі гульні» (Расія).
**11.00** Меладраматычны серыял «Адзіны мой грэх» (Расія-Украіна). 3-я серыя.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. серыял «Цуды прыроды».
**13.50** Драматычны серыял «У кожнага свая вайна» (Расія). 4-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**19.20, 23.55** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.50** Камедыйны серыял «Каралі гульні» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.55** Камедыя «Хата дагары нагамі» (ЗША).
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер.фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Група «Zeta». Шматсер. фільм. Закл.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Знаёмыя з Бэверлі Хілз».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Беларуша».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Драма «Ваяр».
**23.40** Прэм'ера. «Хто такі гэты Кустурыца?».
**01.30** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома-2».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Белае золата». ЗША-Расія.
**15.35** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Брама Афіны». ЗША-Іспанія, 2009 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** СТБ прадстаўляе: Юбілейны канцэрт «Збірайцеся сябры». 2010 г.




**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладрама «Рыфмуецца з каханнем» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**10.20** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**11.05** Фільм - дзецям. «Зімародак» («Беларусьфільм»).
**12.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.00** Камедыя «Нават не думай» (Расія).
**14.45** Баявік «Паміж жыццём і смерцю» («Беларусьфільм»).
**16.35** Дакументальны серыял «Усе грані ўтрапёнасці» (Германія).
**17.15** Дача здароўя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Трагікамедыя «Я застаюся!» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Трагікамедыя «Зламаныя кветкі» (ЗША-Францыя).
**23.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.15** Арэна.




**08.00** «Мой горад». Жыткавічы.
**08.15** «Карані».
**08.45** «Узоры лёсу». Дак. фільм.
**09.00** «Приведем ко Творцу сотворенный Им Космос». Дакументальны фільм.
**09.30** «Запаведнай сцежкай».
**10.00** Дзіцячы фільм. «Белае возера».
**11.15** «Таямніца часу». Дак. фільм.
**11.35** «Скарбніца Гомельшчыны».
**12.00** «Мой горад». Жыткавічы.
**12.15** «Усяго адна ноч». Мастацкі фільм.
**13.45** «Мір - нацыянальная жамчужына Беларусі». Дакументальны фільм.
**14.00** «Госць». Тэленавела.
**14.30** «Маем рэчы».
**14.50** «Гэтага быць не магло. Але так было...» Дакументальны фільм.
**15.15** «Прыгоды за шырмай, або Звязаныя адной ніткай». Дакументальны фільм.
**15.45** «Палескі пачастунак».
**16.00** «Мой горад». Жыткавічы.
**16.15** «Песні мінулага стагоддзя». «Праз гады, праз адлегласці...» Канцэрт зорак эстрады.
**17.10** «У рэху імені твайго...».
**17.30** Дзіцячы фільм. «Белае возера».
**18.45** «У пошуках новай зямлі». Дакументальны фільм.
**19.10** «Лёгка сказаць».
**19.35** «Анісімаў». Дакументальны фільм.
**20.05** «Запаведнай сцежкай».
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Усяго адна ноч». Мастацкі фільм.
**22.15** «АРТіШОК».
**22.40** «Песні мінулага стагоддзя». «Праз гады, праз адлегласці...» Канцэрт зорак эстрады.
**23.35** «Мой горад». Жыткавічы.




**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял "Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Прэм'ера. «Справа лекараў».
**15.15** «Прафесія-рэпарцёр».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Фільм «Я - ангіна!».
**23.00** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».
**00.45** «Кропка незвароту». Дак. фільм.




**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Мультфільм.
**08.30** Т/с «Йохан ды Мар'я».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Ключы ад неба».
**10.40** «На шашлыкі».
**11.10** Д/ф «Каскадзёры».
**12.25** М/ф «Тата».
**14.15** «Сардэчна запрашаем».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынствы і пакаранне».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** Д/ф «Агністая дуга».
**19.35** М/ф «Час збіраць камяні».
**21.20** «Любімыя акцёры».
**21.50** М/ф «Вар'яцкі дзень інжынера Баркасава».
**00.10** М/ф «Запомніце, мяне завуць Рагозін!».
**02.15** Ключы ад неба.
**03.35** М/ф «Падкідыш».




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.15** «Бландзінка», серыял: 3 серыя.
**09.00** «Трысняговы танец», дак. фільм, 2000 г., Польшча.
**10.05** Невядомая Беларусь: «Пішчалаўскі замак», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**10.30** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Тры шалёныя нулі», серыял: 10 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 12 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Від з дзясятага паверху», 2011 г., Польшча.
**18.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Далёка нам яшчэ да БНР», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**20.00** Форум (ток-шоу).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 4 серыя.
**22.55** «Бандыт», драма, 1997 г., Польшча, Вялікабрытанія–Францыя–Германія.
**00.30** Лета з дэтэктывам: «Левасуддзе», тэлесерыял: 3 серыя.
**01.10** Аб'ектыў.
**01.35** Студыя «Белсат».

## 24 ЖНІЎНЯ, СУБОТА




**06.55** Камедыя «Старыя-разбойнікі» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Камедыйная меладрама «Выратавацьбоса» (Украіна-Расія).
**10.40** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.15** Фантастычная меладрама «Чалавек-амфібія» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**16.55** Эксцэнтрычная камедыя «Жандар і іншапланецяне» (Францыя).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Меладрама «Ружа развітальных вятроў» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Любоўная меладрама «Пунсовая літара» (ЗША).
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).



**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Сінія ночы». Шматсерыйны фільм.
**14.00** Прэм'ера. «Мікалай Валуеў. Самы буйны палітык у свеце».
**15.00** Прэм'ера. «Давайце схуднеем?».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**16.55** «Форт Баярд».
**18.25** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** Фільм «Вікі Крысціна Барселона».
**00.35** Камедыя «Пробліскі надзеі».



**06.25** «Салдаты». Серыял.
**07.15** «Анфас».
**07.30** Фільм «Брама Афіны». ЗША-Іспанія, 2009 г.
**09.10** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**11.15** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.45** «Мінск і мінчане».
**12.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.20** «Прыгоды дылетанта».
**13.55** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**15.05** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Тры метры над узроўнем неба. Я цябе хачу». Іспанія, 2012 г.
**22.30** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг». Дайджэст.
**23.30** Фільм «Касцяніца. Час лета». Расія, 2006 г.
**01.15** «Глядзець усім!».




**07.35** Мультфільмы.
**07.50** Фільм-казка «Салавей» (СССР).
**09.15** Пазакласная гадзіна.
**09.35** Тэлебарометр.
**09.40** Трагікамедыя «Я застаюся!» (Расія).
**11.55** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**14.00** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.35** Дача здароўя.
**15.15** Фантастычная камедыя «Джэк» (ЗША).
**17.25** Лірычная камедыя «Самая абаяльная і прывабная» (СССР).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.20** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «КЕНО».
**21.05** Крымінальны баявік «Бой з ценем 3. Апошні раўнд» (Расія).
**23.25** Эксцэнтрычная камедыя «Ржэўскі супраць Напалеона» (Расія-Украіна).




**08.00** «Таямніца душы».
**08.25** Дзіцячае кіно. «Юрка, сын камандзіра».
**09.45** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**10.10** «Андрэй Бембель: Смерць, Перамога, Слава». Дакументальны фільм.
**10.40** «Суседзі».
**10.55** «Сола для трубы». Дакументальны фільм.
**11.45** «Паспець да ночы». Фільм-партрэт.
**12.20** «Ледзь смялейшы за іншых». Фільм-партрэт.
**13.00** «АРТіШОК».
**13.30** Дакументалістыка. «Эпоха. Падзеі і людзі».
**14.10** «Уладзімір Співакоў запрашае...» «Віртуозы Масквы» - сення і заўтра.
**15.35** «Росчырк часу».
**15.50** «Геадэзічная Дуга Струвэ». Навукова-папулярны фільм.
**16.05** «Вежы Наваградка». Дакументальны фільм.
**16.15** «Фантасмагорыі Паніна». Дакументальны фільм.
**16.35** «Крылатыя кошкі ночы». Навукова-папулярны фільм.
**16.50** «Камертон».
**17.15** «Маем рэчы».
**17.35** «Жыццё Леанарда Да Вінчы». Гісторыка-біяграфічная драма. 1-я, 2-я, 3-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Жыццё Леанарда Да Вінчы». Гісторыка-біяграфічная драма. 4-я, 5-я серыі.
**22.25** Сусветнае кіно. «Джынджэр і Фрэд».
**00.30** Дакументалістыка. «Эпоха. Падзеі і людзі». Стаць князем і памерці...




**06.25** Дэтэктыўны серыял «Страхавальнікі».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Іх норавы».
**08.55** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.15** Камедыя «Нашых б'юць».
**15.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**15.45** Вострасюжэтны серыял «Профіль забойцы».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Профіль забойцы».
**23.25** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».
**01.10** «Кропка незвароту». Дакументальны фільм.




**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.20** «Эксперыментатары».
**08.35** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 01.25** М/ф «Бедная Маша».
**12.40, 23.40** М/ф «Падвойнае прозвішча».
**14.25** «Усюды жыццё».
**15.10** Т/с «Два колеры запалу».
**19.40** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.25** М/ф «24 гадзіны».
**21.55** М/ф «Час збіраць камяні».
**03.55** Д/ф «3 нагоды».




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Мадла і Туп», «Чацвёра вушэй у пералеску».
**08.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей: 12 серыя.
**09.10** ««Тры шалёныя нулі», серыял: 8 серыя.
**09.35** «Машына зменаў», тэлесерыял: 9 і 10 серыі.
**10.35** Форум (ток-шоу).
**11.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.50** «Пішчалаўскі замак», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**12.15** «Бландзінка», серыял: 3 серыя.
**13.05** «Час гонару», серыял: 48 серыя.
**13.50** «Бандыт», драма, 1997 г., Польшча, Вялікабрытанія–Францыя–Германія.
**15.20** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Зніклыя скарбы Райху».
**16.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 4 серыя.
**17.00** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 8 серыя.
**17.25** «Від з дзясятага паверху», 2011 г., Польшча.
**17.40** «Белы ветразь над Прыпяццю», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**18.35** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў: «Утоеныя скарбы», 2000 г.
**19.30** Беларусы ў Польшчы.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**20.20** Невядомая Беларусь: «Праўда Хатыні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**22.55** Невядомая Беларусь: «Далёка нам яшчэ да БНР», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**23.20** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 12 серыя.
**00.10** Аб'ектыў.
**00.25** МакраФон: Канцэрт «Ix N.R.M – іх Мроя»: ч. 3.
**01.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 25 жніўня, нядзеля

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.15** Фантастычная меладрама «Чалавек-амфібія» (СССР).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.00** Навіны.
**12.20** Камедыя «Старыя- разбойнікі» (СССР).
**14.20** «Курская бітва. Лінія абароны». Тэлестужка АТН.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.35** «Курская бітва. Наступ». Тэлестужка АТН.
**16.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.15** Эксцэнтрычная камедыя «Жандар і жандарметкі» (Францыя).
**19.05** Прэм'ера! Камедыя «Сапраўднае каханне» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Тэлефільм АТН «Радзівілы. Таямніцы сям'і».
**22.30** Камедыйная меладрама «Шапаголік» (ЗША).
**00.25** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).

**Н**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** Фільм «Хронікі Нарніі: Заваёўнік світанку».
**13.25** «Вясельны перапалох».
**14.25** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Ноцінг Хіл».
**18.40** «ДО РЭ». Лепшае.
**20.00** Контуры.
**23.00** Прэм'ера. Фільм «Паляўнічы».

**ТВ**

**06.10** «Салдаты». Серыял.
**07.50** Фільм «Тры метры над узроўнем неба. Я цябе хачу». Іспанія, 2012 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**14.50** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Аднойчы ў Версалі». Францыя, 2009 г.
**22.45** «Якія людзі!».
**23.40** Фільм «Я аб'яўляю вайну». Францыя, 2011 г.
**01.20** «Дакументальны праект».
**02.10** «Дакументальны праект».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.50** Мультфільмы.
**08.25** Фільм-казка « Фініст - Ясны Сокал» (СССР).
**09.45** Пазакласная гадзіна.
**10.00** Тэлебарометр.
**10.05** Лірычная камедыя «Самая абаяльная і прывабная» (СССР).
**11.45** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр» («Беларусьфільм»). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**13.55** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**14.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Часопіс.
**14.55** Крымінальны баявік «Бой з ценем 3. Апошні раўнд» (Расія).
**17.15** Камедыйная меладрама «Таймшэр» (Германія-ЗША).
**19.15** Суперлато.
**20.10** Спорт-кадр.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Рамантычная камедыя «Каханне і іншыя катастрофы» (Францыя-Вялікабрытанія).
**22.55** Крымінальны трылер (Расія).

**РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ**

**08.00** «Абіцель душы».
**08.25** Мультфільмы.
**09.35** «Жыццё Леанарда Да Вінчы». Гісторыка-біяграфічная драма. 1-я - 5-я серыі.
**14.10** «Наперад у мінулае».
**14.40** Дзіцячы фільм. «Палёт у краіну пачвараў».
**15.50** Дакументалістыка. «Эпоха. Падзеі і людзі». Іван Кабушкін. Чалавек вайны.
**16.35** «Свет Караткевіча». Дакументальны фільм.
**17.05** «Міхаіл Пташук». Дакументальны фільм.
**17.30** «Гэты дзіўны свет...».
**18.00** «Скульптар». Дакументальны фільм.
**18.25** Сусветнае кіно. «Джынджэр і Фрэд».
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Уладзімір Співакоў запрашае...» «Віртуозы Масквы» - сення і заўтра.
**22.05** Дакументалістыка. «Эпоха. Падзеі і людзі». Іван Кабушкін. Чалавек вайны.
**22.45** «Валянцінаў дзень». Спектакль.

**НТВ**

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Страхавальнікі».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Кулінарныя курсы: Італія. Таскана».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Следства вялі...».
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**15.35** Вострасюжэтны серыял «Профіль забойцы».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Профіль забойцы».
**22.55** «Наталля Гундарава. Асабістае жыццё акторкі».
**23.45** Прэм'ера. «Усё на свеце - музыка».

**МИР**

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30** М/ф «Самазванцы нехаця».
**13.05** М/ф «Тата».
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Т/с «Вакзал».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Т/с «Вакзал».
**21.50** М/ф «Карабель здань».
**23.30** М/ф «Самазванцы нехаця».
**02.05** М/ф «Шэрая сава».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «Праўда Хатыні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**07.50** Беларусы ў Польшчы.
**08.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.45** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 5 серыя.
**09.15** «Тры шалёныя нулі», серыял: 9 і 10 серыі.
**10.10** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 12 серыя.
**10.35** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**11.00** «Глыбокая вада», серыял: 11 серыя.
**11.45** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 12 серыя.
**12.15** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**13.55** «Чэслаў Немэн», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**14.55** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 12 серыя.
**15.40** «Від з дзясятага паверху», 2011 г., Польшча.
**16.30** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 5 серыя.
**17.25** Без рэтушы: «Дом Сабілы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**18.50** «Крызіс у раі», дак. фільм, 2009 г. , Беларусь.
**19.55** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**20.00** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.15** Невядомая Беларусь: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**20.40** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Мой Нікіфар», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**22.55** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**23.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Кассир Пеня ______ Всего ______





СНД

# НАШЧАДКІ ЗАЛАТОЙ АРДЫ

*Алег НОВІКАЎ*

**Краіны сярэдняй Азіі перасварыліся за права лічыцца нашчадкам Залатой Арды і, адпаведна, за права валодання ўсёй тэрыторыяй былой мангольскай дзяржавы.**



Пралогам гэтай незвычайнай гісторыі стала публікацыя ад 6 ліпеня на інтэрнэт-рэсурсе 12news.uz артыкула акадэміка Рустамжона Абдулаева. На яго перакананне, Узбекістан, зыходзячы са сваёй шматвяковай гісторыі, «мае права быць правапераемнікам не толькі СССР (!), але і дзяржавы, якую расійскія гісторыкі памылкова называюць Залатой Ардой, але якая на самай справе насіла назву Узбекістан». Як вынік, Узбекістан абавязаны ўключыць у свае межы тэрыторыю Кыргызстана, Таджыкістана, Туркменіі і часткова Казахстана (землі былой Залатой Арды). Аўтар заяўляе прэтэнзіі нават на Крым як на былы ўлус усё той жа ардынскай дзяржавы. Нечакана ў спіс тэрыторый, якія павінны стаць часткай Узбекістана, трапіла і Арменія. На думку Рустамжона, Арменіі варта прад'явіць прэтэнзіі за ўдзел дашнакоў (прадстаўнікоў радыкальнага армянскага руху «Дашнакцуцюн») у разгроме Туркестанскай аўтаноміі ў 1918 годзе (дашнакі ў той час дапамагалі атрадам чырвонаармейцаў).

Вар'яцтва — скажа нехта. На карысць такога дыягназу ўскосна сведчаць іншыя публікацыі акадэміка Абдулаева. Напрыклад, ён выводзіць усю расійскую эліту, уключна з дынастыяй Раманавых, ад узбекскага прозвішча. На гэтай падставе Пуціну прапануецца назваць будучы Еўразійскі Саюз — Узбекістан. З такім падыходам згодныя далёка не ўсе калегі Абдулаева. «Я добра ведаю працы Рустамжона Абдулаева. На жаль, яго цяжка назваць сапраўдным навукоўцам, у яго рэпутацыя гарадскога вар'ята, — заявіў агенцтву «Росбалт» доктар гістарычных навук, спецыяліст па Сярэдняй Азіі Сяргей Абашын.

Між тым, шэраг палітолагаў убачылі тут не менш як контуры новай знешнепалітычнай дактрыны Ташкенту. Яны звяртаюць увагу, што сайт 12news.uz — афіцыйнае выданне, а курыруе яго былы кіраўнік савета бяспекі, а цяпер афіцыйны дарадчык Карымава — Дзільшод Нурулаеў. Выпадковасці тут быць таксама не магло, паколькі ва Узбекістане пануе татальная цэнзура, якая не прапусціць такі выбуховы матэрыял без санкцыі з самага верху. Да таго ж артыкул Рустамжона Абдулаева фрагментарна дублюе афіцыйную знешнепалітычную дактрыну Іслама Карымава. Згодна з новай узбекскай гістарыяграфіяй, заснавальнікам узбекскай дзяржаўнасці з'яўляецца Цімур (Тамерлан), якога тут называюць не інакш як уладаром трох частак свету — Еўропы, Азіі і Афрыкі. Лічыцца, што ў зону ўплыву Цімура ўваходзіла і сярэднявечная Русь.

Варта адзначыць, што ўзбекская апазіцыя цалкам пагадзілася з высновай аб заказным характары артыкула. Паэт і лідар апазіцыйнага Народнага Дэмакратычнага Руху Узбекістана Мухамад Саліх кажа: «Гэты артыкул зроблены па ўказцы ўзбекскага прэзідэнта. Калі б Абдулаеў напісаў такое без санкцыі, яго б папросту забілі».

Усур'ёз успрынялі разважанні Рустамжона ў суседнім Казахстане — канкурэнце Узбекістана ў барацьбе за статус рэгіянальнага лідара. Апаніраваць Абдулаеву вырашыў палітолаг Даніяр Ашымбаеў. Тэзісы яго матэрыялу не менш экстравагантныя. Паводле яго слоў, «у Кіргізіі і Узбекістане склалася няпростая палітычная сітуацыя». У гэтых умовах, лічыць палітолаг, «было б мэтазгодна разгледзець пытанне пра патэнцыйнае ўключэнне Узбекістана і Кыргызстана ў склад Казахстана на правах аўтаноміі. Гаворка можа ісці як пра анексію, так і пра мірнае аб'яднанне Цэнтральнай Азіі пад крылом найбольш стабільнай і развітой дзяржавы». Даніяр таксама мяркуе, што казахстанскае дамінаванне ў рэгіёне апраўдана гістарычна. «Протаказахскія і казахскія плямёны дамінавалі ў рэгіёне (Хуны, Цюркскі каганат, Мангольская імперыя і яе спадчыннікі). Урэшце, сам Ташкент быў сталіцай Казахскага ханства».

Увогуле, артыкул Рустамжона выклікаў выбух фантазіі палітыканалістаў усіх краін, якіх аўтар лічыць часткай Узбекістану. Так, на армянскіх інтэрнэт-форумах заклікаюць патрабаваць ад Узбекістана перайсці пад пратэктарат Ерэвана, паколькі з ідэяй дзяржаўнасці народы Каўказу і Сярэдняй Азіі, быццам, пазнаёмілі армяне. А ў Кіргізіі, аналізуючы старажытны эпас «Манас», прыйшлі да высновы, што калісьці тут існаваў Кіргізскі каганат, які ўключаў, адпаведна, і Казахстан, і Узбекістан.

Дыскусія вакол артыкулу Абдулаева дасягнула кульмінацыі пасля перастрэлкі 26 ліпеня на ўзбекска-кіргізскай мяжы. Хутка знайшоўся шэраг экспертаў, якія правялі сувязь паміж згаданай публікацыяй і інцыдэнтам. «Стральбу на мяжы можна было б спісаць на хуліганства не надта дысцыплінаваных вайскоўцаў, калі б яна дзіўным чынам не супала з цэлым шэрагам палітычных заяваў, што прагучалі з Ташкента. …Перастрэлка паміж кіргізскімі і ўзбекскімі памежнікамі, падчас якой загінулі двое вайскоўцаў, цалкам можа стаць фрагментам прэлюдыі да вялікай сярэднеазіяцкай вайны. Уцягнутыя ў яе будуць, як мінімум, пяць былых савецкіх рэспублік, у тым ліку і Расія».

Такія жудасныя сцэнары, натуральна, не спраўдзіліся, хаця напружанасць на мяжы Кіргізіі і Узбекістана захоўваецца. На цяперашні момант мяжа зачыненая. Між тым артыкул, вакол якога разгарэлася такая эмацыйная дыскусія, нечакана знік з сайта 12news.uz. Зараз гэта гісторыя выглядае кур'ёзам. Можна меркаваць, што інтарэс да артыкулу Рустамжона цалкам штучны. Проста на двары час адпачынкаў, калі на інфармацыйным рынку штыль. Дзякуючы дэфіцыту навін правакацыйныя ідэі ўзбекскага акадэміка нечакана апынуліся ў цэнтры ўвагі СМІ.

Аднак справа на гэтым не скончылася. Узнікла версія, што Рустамжона нехта выкарыстаў. Так, амерыканскі саветолаг Пол Гобл лічыць што артыкул меў выразна функцыянальную задачу. «Гэты артыкул, магчыма, з'яўляецца «пробным шарам» для праверкі рэакцыі міжнароднай супольнасці. Але можна разгледзець і іншую версію. Яна магла быць ініцыяваная якраз тымі сіламі, якія не хочуць, каб Ташкент уступіў у NATO».

З гэтым згодныя расійскія чырвона-карычневыя СМІ. «Каб абгрунтаваць і апраўдаць намер трапіць у амерыканскі ваенны блок, Узбекістан у асобе Р. Абдулаева (будзем называць аўтара так), вылучыў шэраг пунктаў і падпунктаў, якія вызначаюць «навіслыя над Узбекістанам ваенныя пагрозы, пагрозы прыроднатэхнагеннага характару, пагрозы, звязаныя з міжнацыянальнымі канфліктамі і лішкам працоўных рэсурсаў», прадухіліць якія, «магчыма толькі адным спосабам — шляхам уступлення Узбекістана ў NATO», піша адзін з журналістаў.

Іншыя выдзяляюць у тэксце акадэміка блок, які прысвечаны Таджыкістану. На адрас Таджыкістана аўтар выказаў асаблівыя тэрытарыяльныя прэтэнзіі. Прычым не толькі зямельныя, але і водныя. Гаворка пра незадаволенасць Ташкента праектам Рагунскай ГЭС, якую Душанбэ будуе разам з Расіяй. Па тэксту атрымліваецца, што ўваход Узбекістана ў NATO будзе азначаць канфлікт Таджыкістана з усім Паўночным альянсам.

Ёсць версія, што замовіў скандальную публікацыю сам Карымаў. «Тое, што 75-гадовы Іслам Карымаў усё больш аддаляецца ад рэальнасці, ужо не сакрэт. Сваімі імправізаванымі выступамі перад публікай ён усё часцей ставіць сябе ў смешнае і вартае жалю становішча. Таму ён і вырашыў празандзіраваць глебу з дапамогай прафесарскага трызнення», — піша адзін з узбекскіх апазіцыянераў.

Якая б версія ў выніку не аказалася слушнай, зразумела адно: стабільнасць у Сярэдняй Азіі вельмі няўстойлівая. Інакш бы мясцовая супольнасць так эмацыйна не рэагавала на відавочную медыйную правакацыю. Таксама нельга не заўважыць важную ролю прымітыўных гістарыяграфічных канцэпцый, на аснове якіх часта будуецца афіцыйная ідэалогія постсавецкіх дзяржаў гэтага рэгіёну. Тыя канцэпцыі яўна супярэчаць адна адной, што ў будучыні пагражае новымі рэгіянальнымі канфліктамі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

29 ліпеня 2013 года ў Мінску беларускі лідар на сустрэчы з Патрыярхам Кірылам і кіраўнікамі праваслаўных цэркваў адзначыў: «Адзіная вера, якая ляжыць у аснове славянскіх культур, збліжае нас і робіць зразумелымі адзін аднаму. Ніякія межы не могуць падзяліць тое глыбокае адзінства, якое вырастае з нашай гісторыі». Аднак Боскую літургію на мінскім замчышчы А. Лукашэнка так і не наведаў. Перад пачаткам набажэнства адбылася паказальная неспадзяванка — адзін з прадстаўнікоў БПЦ звярнуўся да прысутных на беларускай мове і замест слоў аб адзіных каранях і Кіеўскай Русі стаў разважаць пра перыяд Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), пра багацце і старажытнасці беларускай культуры, хаця менавіта ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай праваслаўных уціскалі і абмяжоўвалі ў правах. Зрэшты, і ў нетрах БПЦ нямала тых, хто хацеў бы большай самастойнасці ад РПЦ і «беларусізацыі» царкоўнага жыцця.

**«Столетие» (Расія)**

Калі А. Лукашэнка ў думках даўно змірыўся з існаваннем у Беларусі «фракцыі заходнікаў», то дапусціць, хаця б у думках, існаванне ў яго краіне «фракцыі прарасійцаў» ён ніяк не можа. Таму што як палітык ён сам пачынаў узыходжанне да ўлады ў Беларусі як «прарасіец», як антыпод «заходнікам» (Пазьняку, Шушкевічу). Таму што для яго персаналісцкай улады ў Беларусі пагроза з Захаду (ад беларускіх «заходнікаў») менш небяспечная, чым пагроза з Усходу. Лукашэнку выгадна захоўваць манаполію на яго адносіны з Расіяй, бо яго рэжым палітычна падтрымліваецца і эканамічна ўтрымліваецца толькі за кошт Крамля. Каб не даць Крамлю спакусу змяніць яго на ўмоўнага Баранчыка або Уса, або Фралова, або Яраšука, Лукашэнка вымушаны бязлітасна знішчаць любыя парасткі беларускіх «славянафілаў» у Беларусі.

**«Хвиля» (Украіна)**

Паводле слоў экспертаў, Беларусь цяпер з'яўляецца своеасаблівым «міграцыйным тэрміналам». У яе з Расійскай Федэрацыяй празрыстыя мяжы, таму праз Расію нелегалы трапляюць у Беларусь, а там ужо пачынаюць шукаць магчымасці для далейшага пераходу. Іх, як правіла, затрымліваюць, дэпартуюць, аднак праз пэўны час яны зноў вяртаюцца. Галоўныя прычыны вялізнага патоку нелегальных мігрантаў, якія ідуць транзітам праз Беларусь у Заходнюю Еўропу — абвастрэнне становішча ў Цэнтральнай Азіі. Амерыканскія войскі хутка пакінуць Афганістан, і мы ўбачым другую хвалю эміграцыі, аналагічную той, якая назіралася пасля сыходу войскаў СССР.

**«Правда.ру» (Расія)**

Знаёмства з Мінскам было ў мяне, мякка кажучы, своеасаблівым. Выходжу (з гатэля) — і… І бачу, што на мяне рухаецца магутным патокам калона людзей у ярка-аранжавай уніформе, у руках у іх саўкі і венікі, а ўсе асобы — са слядамі нялёгкага мінулага ў калоніях строгага рэжыму. Калона моўчкі прайшла міма, а я, здаецца, нават перахрысціўся «пра сябе». Гэта ўжо потым я даведаўся, што ў рэспубліцы тады дзейнічала асаблівае правіла. Ледзь не сам прэзідэнт распарадзіўся: датэрмінова выпускаць з турмаў людзей, якія туды патрапілі па «лёгкіх артыкулах», каб яны астатні тэрмін маталі ўжо на волі — працавалі на карысць Мінска, дапамагаючы дворнікам ад усёй сваёй крымінальнай душы. Таму нават не ведаю, каму дзякаваць за такі чысты (да бляску!) Мінск — ці то звычайным дворнікам, ці то зэкам з венікамі...

**«Информационный сайт Даувгапилса» (Латвія)**

Беларусь закіпела ў размовах пра норавы. У дзяржаве, якая тэмы сэксу і распусты апошнія 18 гадоў свядома абыходзіла бокам, апошнім часам здарылася занадта шмат сэксуальных скандалаў... Дарэчы, многія жыхары Мінска перакананыя: з ростам папулярнасці Беларусі сярод расійскіх турыстаў на вуліцы вярнулася прастытуцыя. А павышаным попытам у турыстаў з Расіі і Украіны «мінскі напрамак» стаў карыстацца пасля таго, як Беларусь засталася адзінай краінай у рэгіёне, дзе легальна працуюць буйныя казіно. У адным толькі Мінску іх больш за 60. Месяц таму амерыканская агенцтва Bloomberg уключыла Беларусь у дзясятку самых фрывольных краін свету. ...Усе гэтыя скандалы, зразумела, вельмі моцна б'юць па самалюбстве беларускага кіраўніцтва, якое восень ужо шмат гадоў паўтарае, што рэспубліка — апора спакою, памяркоўнасці і маральнасці ў Еўропе.

**«The New Times» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УРУГВАЙ. РОК-ЗОРКА ДАБІЛАСЯ ЛЕГАЛІЗАЦЫІ МАРЫХУАНЫ

Прэса сцвярджае, што менавіта вядомы брытанскі рок-музыка Стынг праштурхнуў ва Уругваі закон аб легалізацыі марыхуаны. Як сцвярджаюць газетчыкі, законапраект не атрымаў бы падтрымкі парламентарыяў без моцнай прапагандысцкай кампаніі, якую арганізаваў Drug Policy Alliance. Drug Policy Alliance — няўрадавая арганізацыя з ЗША, якая выступае за лібералізацыю антынаркатычных законаў. Паколькі ў ЗША шансаў праштурхнуць такі закон няшмат, Drug Policy Alliance намагаецца працаваць за мяжой. І працуе някепска, з улікам таго, што дабіўся легалізацыі марыхуаны ва Уругваі — краіне, дзе 63 працэнта грамадзян выступаюць супраць падобнай меры. На думку правай апазіцыі, большасць дэпутатаў пагадзілася галасаваць «за», каб трапіць у кампанію асабістых сяброў Стынга, які ж сябра кіраўніцтва Drug Policy Alliance агітаваў за новы закон. Сам Стынг не каментуе абвінавачанне. У сваю чаргу, аўтары закона кажуць, што выратавалі Уругвай ад наркавойнаў, якія страсаюць краіны Лацінскай Амерыкі. Так, у Мексіцы ў мінулым годзе ў выніку разборак паміж наркамафіяй і паліцыяй былі забітыя 70 тысяч чалавек.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. У КРАІНЕ ЗАБАРОНЯЦЬ МЯСА



Праўда, толькі адзін дзень на тыдзень, і тое, калі да ўлады па выніках вераснёўскіх выбараў у Бундэстаг прыйдуць Зялёныя. Сярод іншага эколагі прапануюць абавязаць усе кафэ і рэстараны выключыць са свайго меню мясныя і рыбныя стравы. На думку аўтараў ініцыятывы, такія правілы будуць спрыяць умацаванню здароўя немцаў. Акрамя таго, айчынная індустрыя, звязаная з забойствам жывёлаў, будзе не такой буйной. Цікава, што, паводле сацыялагічных апытанняў, палова жыхароў ФРГ згодныя з «антымяснoй» прапановай Зялёных. Супраць т. зв. Дня вегетарыянца выступае партыя Ангелы Меркель і яе партнёры па кааліцыі — Свабодныя дэмакраты. Яны нагадваюць, што Адольф Гітлер таксама быў фанатам вегетарыянскай кухні. Увогуле, паводле статыстыкі, кожны немец штогод з'ядае 60 кілаграмаў мяса.

**Паводле нямецкай прэсы**

### МАЛДОВА. «НЕ» САВЕЦКАЙ КАЛЯІНЕ!

З цяперашняга часу ўсе новыя чыгуначныя лініі будуць будавацца згодна з еўрапейскімі стандартамі. Пра гэта заявіў малдаўскі міністр транспарту і дарожнай інфраструктуры Васіль Ботнар. Як вядома, яшчэ з сярэдзіны XIX стагоддзя стандартам на чыгунках Расійскай імперыі (пазней — СССР і Фінляндыі), а таксама і пасля Манголіі, была абраная шырыня каляіны 1 524 міліметраў, бо яна забяспечвае перавозку грузаў большай масы. Таксама лічылася, што з-за неабходнасці мяняць колы ў вагонаў, можна будзе прытармазіць тэмп наступу патэнцыйнага праціўніка з Захаду ўглыб СССР. Пасля распаду СССР гэты стандарт шырыні каляіны захаваўся на чыгунках усіх краін, якія ўтварыліся на месцы СССР, уключаючы краіны Балтыі. З таго часу ніводная з постсавецкіх краін цалкам не адмовілася ад старых стандартаў шырыні каляіны, напэўна, з-за дарагавізны рэформы. Прыкладам стала маленькая і бедная Малдова, якая пачынае цалкам «еўрапеізаваць» сваю чыгунку. Першымі лініямі з новай каляінай стане новы маршрут у Румынію і «ветка» з порту Джурджулешты да Кішынёва.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ТУРКМЕНІЯ. ЯК ПІСАЦЬ ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ



Калі верыць туркменскай палітычнай эміграцыі, у Туркменістане актыўна фармуецца новая прафесія — знаўцы напісання лістоў да прэзідэнта Гурбангулы Бердымухамедаву. Аказваецца, напісаць такі ліст — амаль навука. Напрыклад, саму сутнасць праблемы аўтар павінен вызначыць толькі ў трэцім абзацы. Першыя два павінны апісваць квітнеючы пад кіраўніцтвам гаранта Туркменістан. Вось прыклад такога тэксту: «У шчаслівую эпоху суверэннай дзяржавы, у выніку Вашага клопату аб сваім народзе, туркменскі народ жыве ў міры і спакоі, у дабрабыце. Як і ў іншых кутках нашай краіны, і ў нашым раёне, паважаны наш Заступнік, вядзецца вялікая работа па павышэнні ўзроўню жыцця і дабрабыту народа. Натхнёны Вашым лозунгам «Дзяржава для чалавека», адказваючы на Ваш нястомны клопат пра свой народ, мы, ***, любім сваю прафесію і кругласутачна служым свайму народу». Пасля пачынаецца апісанне сутнасці праблемы. Аднак у тэксце яшчэ не раз павінны сустракацца дыфірамбы. Напрыклад, кожны абзац павінен абавязкова пачынацца са звароту да лідара. Юрыст з Ашхабада, які пажадаў застацца неназваным, кажа, што без прадмовы ў такім ключы ніхто ліст кіраўніку дзяржавы не стане нават разглядаць. Паводле яго слоў, у час крызісу такіх лістоў становіцца ўсё больш. Так што на рынку назіраецца вялікі запыт на складальнікаў лістоў да прэзідэнта.

**Паводле туркменскай прэсы**

З НАГОДЫ

# РЫМСКІ ПАПА ПРА ГЕЯЎ

*Алег НОВІКАЎ*

**Польскія каталікі намагаюцца зразумець словы новага Рымскага Папы пра ягонае лаяльнае стаўленне да прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў. Між тым, лібералы лічаць, што наступствам гэтых дэбатаў стане раскол польскага касцёла.**

У фокусе ўвагі не толькі польскай, але і ўсёй сусветнай каталіцкай грамады аказалася выказванне Папы пры сустрэчы з прадстаўнікамі СМІ падчас ліпеньскага візіту ў Бразілію. «Хто я такі, каб асуджаць геяў?» — паведаміў Францыск. Словы пантыфіка за лічаныя хвіліны абляцелі ўвесь свет. Раней Ватыкан быў ледзьве не ў авангардзе барацьбы супраць правоў сэксменшасцяў. І вось такі нечаканы зігзаг.

Натуральна, левая і ліберальная грамадскасць вітала словы Папы. Так, іспанскае лева-ліберальнае выданне «El Pais», каментуючы словы Францыска, спадзяецца, што да ўлады ў Ватыкане прыйшлі прыхільнікі вучэння «Тэалогія вызвалення» — левы накірунак у лацінаамерыканскім Касцёле, сябры якога бачаць у Хрысце ледзьве не першага камуніста. Супрацьлеглая рэакцыя на правым флангу, дзе выказванне пантыфіка сустрэлі насцярожана. У тым ліку абураецца кансерватыўная частка польскага касцёлу, які, як вядома, адыгрывае вялікую ролю ў жыцці краіны.

Пры гэтым наўпрост крытыкаваць лідара Ватыкана фундаменталісты не могуць. Таму выкарыстоўваецца больш цікавы прыём. Самая папулярная ў гэтым асяроддзі версія — словы Папы выхапілі з кантэксту прайдзісветы — журналісты і перакладчыкі. Так, выданне «Christianitas» называе рэакцыю прэсы на словы Папы «дурным энтузіязмам». «Christianitas» лічыць, што мы ўсе сталі сведкамі фестывалю ліберальных публіцыстаў, якія «прыдумалі сабе свой вобраз Папы». На думку выдання, дыскусія Ватыкану наконт правоў гомасэксуалістаў больш складаная. Аднак тое, што адбываецца на сумных тэалагічных сімпозіумах, натуральна, не цікавае акулам клавіятуры. Дасталася і перакладчыкам. Ахвотна ўзгадваюць тое, што італьянскія словы «traduttore» (перакласці) і «traditore» (здрадзіць) вельмі падобныя.

Сваю фармуліроўку выданне тлумачыць на канкрэтным прыкладзе: «Падчас той жа прэсканферэнцыі Папа казаў пра гомасэксуалізм сярод святароў. Агенцтва АР трактуе гэта як заяву аб змене погляду царквы на гэта пытанне. Між тым, пазней у сваёй прамове Папа ўзгадаў асновы каталіцкага вучэння аб гомасэксуалізме і працытаваў катэхізіс, які асуджае такую практыку як грэх. Аднак ліберальная прэса цалкам ігнаравала гэты фрагмент прэсканферэнцыі. І вось каментатар на канале CNN: «Ніколі не чуў нічога падобнага ад Рымскага Папы, і яго словы можна параўнаць з пачаткам новай Французскай рэвалюцыі».

«Для супрацоўнікаў СМІ інфармацыя — гэта тавар, попыт на які вызначаецца колькасцю клікаў. Нават цень авантуры, скандалу, дэканструкцыі міфаў будзе апісаны так, каб ён стала залатой жылай. Каталіцкая царква цікавіць іх (журналістаў) толькі таму, што гэтую тэму можна прадаць. Шмат аглядальнікаў касцельнага жыцця жывуць катэгорыямі «сенсацыя» і «катастрофа», — піша іншае правае выданне «Fronda».

У ход ідуць і іншыя інтэрпрэтацыі. Напрыклад, пішуць, што сваім выказваннем пра геяў Папа проста хацеў падкрэсліць свой новы стыль. Што ён пры гэтым кіраваўся мясцовай бразільскай кан'юнктурай. Як вядома, у Бразіліі ў гэтай сферы вельмі ліберальнае заканадаўства. Нават легалізаваны аднаполыя шлюбы. Што пантыфік меў на ўвазе нейкага канкрэтнага чалавека, які кінуў займацца садаміяй, а не ўсю грамаду прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў. Іншыя ж мяркуюць, што Папа такім чынам акцэнтаваў увагу на тым, што сам па сабе гомасэксуалізм не ёсць вялікае зло ў параўнанні з гей-лобінгам.

Аднак спробы такога кшталту інтэрпрэтацыі падаюцца слабымі. Перш за ўсё таму, што сам Папа не паставіў кропкі над «і». «Чаму сам Папа Рымскі даў імпульс гэтаму працэсу? Чаму дапусціў гэтую хвалю? Няўжо Папа сапраўды думаў, што сучасныя СМІ будуць намагацца зразумець яго словы і жэсты?» — абураецца блогер на форуме аднаго з каталіцкіх сайтаў. Паўплывала на настрoі аўдыторыі і віншаванне, якое Ватыкан на днях даслаў мусульманам з нагоды заканчэння свята Рамадан. У тым віншаванні Папа называе мусульман «братамі».

Таму на старонках кансерватыўных СМІ гучыць усё больш адкрытай крытыкі на адрас пазіцыі пантыфіка. Тая ж «Fronda» адзначае: «Можна быць добрым каталікам і ўвогуле не цікавіцца тым, што кажа Папа. Тым больш, што паміж нейкімі словамі і энцыклікай пралягае вялізарная прорва. А паміж словамі і дагматычнай дэфініцыяй — прорва ўвогуле касмічная. Ёсць мяжа, якую каталік у стаўленні да Папы не можа пераходзіць, аднак гэта дазваляе яму трымаць дыстанцыю, і нават праяўляць сваю нязгоду». Самыя заўзятыя радыкалы заклікаюць байкатаваць хуткі візіт Папы ў Кракаў у рамках сустрэчы каталіцкай моладзі. Праўда, такіх вельмі мала.

Ахвотна пры гэтым фундаменталісты ўзгадваюць папярэдніка Францыска — вельмі артадаксальнага і кансерватыўнага Бенедыкта. З'явілася нават цэлыя тэорыя, што той пайшоў на пенсію не па сваім жаданні. Быццам, сысці яго прымусіла ватыканская бюракратыя, дзе шмат прыхільнікаў рэформаў у духу рэзалюцый II Ватыканскага сабору. «Ратцынгер, нават займаючы высокія пазіцыі ў Касцёле, заўсёды быў па-за межамі ватыканскай эліты і ніколі не трактаваўся істэблішментам нават як партнёр для размовы», — катэгарычна адзначае публіцыст аднаго правага выдання.

Калейдаскоп трактовак учынкаў Папы з боку артадоксаў і праявы адкрытай крытыкі на ягоны адрас, натуральна, цешаць ліберальную публіку. Вядомы польскі палітолаг Яцэк Жакоўскі з часопіса «Polityka» кажа: «Ёсць шмат прыкмет таго, што Францыск праз тры гады, калі ў Кракаве адбудзецца свята каталіцкай моладзі, прыедзе на поле бою або на поле, дзе бітва толькі што закончылася. Я з цікавасцю назіраю за зменамі ў ландшафце польскага каталіцызму — вялікай часткі верніка ў будзе цяжка пагадзіцца з ідэямі Папы. Цяжка ўтрымацца ад уражання, што мы стаім на парозе буйнога канфлікту ўнутры польскай царквы, які можа прывесці да яе расколу».

Аднак больш слушнай падаецца наступная думка, апублікаваная на старонках «Fronda»: «Каталіцкая грамада ў стаўленні да слоў Папы пра геяў падзялілася на чатыры групы. Першая — гэта маніпулятары, якія даводзяць, што словы Папы — нейкі маніфест пра свабоды гомасэксуалістаў. Другая група — гэта фанатыкі, якія вітаюць усё, што робіць пантыфік. Трэція par excellence трымаюцца думкі, што цяперашні Касцёл — гэта фікцыя, паколькі падпарадкоўваецца лініі II Ватыканскага сабору. Прадстаўнікі гэтага накірунку ўвогуле лічаць, што трэба вярнуцца да канонаў, паводле якіх царква жыла да Вялікай Французскай рэвалюцыі.

Нарэшце, ёсць чацвёртая група, найбольш вялікая. Гэта тыя, хто маўчыць. На першы погляд, аргумент «silentio» (па-лацінску «маўчанне») падаецца не надта моцным. Затое кожны з маўклівых адчувае нейкую моц за сваімі плячыма. Тыя, хто маўчыць, не канчаткова разумеюць словы Папы або, лепш сказаць, іх інтэнцыю. Яны пазбягаюць інтэрпрэтацый на гэты конт. У любым выпадку, яны не бачаць, што тыя словы сапраўды былі замахам на каталіцкае вучэнне пра веру і мараль. Іх маўчанне абумоўленае павагай да Папы, яго аўтарытэтам як вярхоўнага пастара. Яны баяцца, што іх негатыўная або пазітыўная рэакцыя можа выклікаць шоў, якое будзе падарункам для рознага кшталту маніпулятараў. А пачатак падобных дэбатаў будзе іскрай у парахавым склепе».

Гэтая група каталікоў сапраўды пакуль не дала ўцягнуць сябе ў дэбаты пра Папу і геяў. Таму пакуль казаць пра раскол польскага Касцёла ўсё ж, думаецца, рана.

ВЫБАРЫ

# ЯНЫ НЕ ПРАЙШЛІ

Алег НОВІКАЎ

**За паўтара месяцы да выбараў у нямецкі парламент вызначылася партыя-лузер. Такой партыяй, відавочна, будуць неанацысты.**




Калі глядзець на цяперашнія дадзеныя сацыялагічных апытанняў, нават не верыцца, што ў свой час Гітлер вырваўся з асяроддзя палітмаргіналаў і дарваўся да ўлады менавіта дзякуючы дэпрэсіі. Быццам, зараз на двары таксама крызіс, аднак папулярнасць цяперашніх праварадыкалаў не здольная пераадолець рубеж нават у адзін працэнт.

Больш таго, нацыянал-дэмакраты (NPD) — вядучая правая радыкальная партыя ФРГ — не здольныя нават выканаць фармальнасці, неабходныя для ўдзелу ў выбарах у баварскі зямельны парламент, якія прызначаныя на 12 верасня. Партыйны актыў не здолеў сабраць патрэбную колькасць подпісаў, неабходных для балаціроўкі. Не дапамагло нават тое, што баварскія правыя вырашылі даваць за кожны подпіс фінансавы бонус памерам у 5 еўра. Прычына правалу з подпісамі да іроніі банальная — большасць баварскіх апаратчыкаў NPD у жніўні адправілася ў адпачынак.

Для нацдэмаў падобныя навіны гучаць як рэквіем па партыі. Галоўнай крыніцай фінансавання карычневага праекту былі грошы, якія партыя атрымлівала з дзяржаўнага бюджэту. Паводле нямецкіх законаў, разлічваць на такія субсідыі можа толькі тая партыйная структура, якая збярэ ў выніку галасавання больш за 1 працэнт.

Такая ж сітуацыя і на федэральным узроўні. Палітычныя сатырыкі вылічылі, што рэйтынг нацдэмаў роўны «нуль цэлых і нуль дзясятых». Ужо зараз кіраўніцтва партыі пачынае рыхтавацца да факту правалу. Лідар партыі Хольгер Апфель заявіў, што ва ўсім вінаваты вельмі высокі прахадны бар'ер памерам у пяць працэнтаў. Ён таксама дадаў, што задачай NPD быў уплыў на выбарчыя дэбаты, а не фармальная перамога.

Фіяска нацыянал-дэмакратаў на выбарах 2013 года мае важны аспект. Федэральныя выбары 2013-га — гэта першыя выбары, якія партыя праводзіць пад кіраўніцтвам абранага ў 2011 годзе фюрэра. Два гады таму прыход у кіраўніцтва 38-гадовага маладога палітыка Хольгера Апфеля шмат кім разглядаўся як пачатак новай эры ў гісторыі нямецкіх ультраправых. Хольгер заклікаў правых радыкалаў быць не проста радыкаламі, а «сур'ёзнымі радыкаламі». Стаўка павінна была рабіцца на выхад з субкультуры скінхэдаў і пашырэнне сацыяльнай базы. Перш за ўсё гаворка ішла пра разрыў адносін з т. зв. Kameradschaften — лакальнай нефармальнай тусоўкай неанацыстаў, якая выкарыстоўвала NPD у якасці даху. У сваю чаргу, партыя выкарыстоўвала іх у якасці масоўкі альбо для збору тых жа подпісаў для выбараў. Паколькі сябры Kameradschaften часта траплялі ў крымінальныя хронікі, партыя ў вачах бюргераў выглядала як збор хуліганаў.

Апошнім часам NPD сапраўды пачала займацца папулісцкімі акцыямі, накшталт дапамогі ахвярам нядаўняга навадненнея. У партыйных агітацыйных матэрыялах практычна няма ідэалагічных забабонаў і заклікаў да рэваншу за пройгрыш у Другой сусветнай вайне. Аўтары буклетаў NPD эксплуатуюць тэму пагрозы эміграцыі, і перш за ўсё з ісламскіх краін. Цяперашняя кампанія ў Бундэстаг пабудавана на тых жа прынцыпах. Яна называецца «Naturlich Deutsch» (натуральны немец), а яе сімвалам ёсць эфектная нямецкая бландзінка. Ніякіх агрэсіўных лозунгаў, выяваў свастык, настальгіі па Трэцяму рэйху і г.д. Стаўка робіцца хутчэй на гумар, накшталт: «Марыя, а не Шарыя» (Шарыя — папулярная назва Шарыяту). Яшчэ адзін канёк — гульня на масавых антыпатыях да палітычнай эліты. «Што чырвона-зялёная кааліцыя, што чорна-жоўтая — усе яны ядуць нашы грошы», — сцвярджае выбарчы плакат NPD.

Здавалася, стаўка зроблена слушна. Тым больш, што неанацыстам фантастычна пашанцавала з гістарычным фонам. З-за фінансавых праблем Грэцыі, якія вырашаюцца таксама за кошт нямецкага бюджэту, у нямецкім грамадстве пашырыліся нацыяналістычныя настроі. Узнікла сталая група прыхільнікаў вяртання нямецкай маркі і ўвогуле выхаду Германіі са складу Еўрасаюзу.

Аднак, дзіўным чынам, еўраскептыкі ў NPD не ідуць. Яны хутчэй аддаюць перавагу «Партыі піратаў» і выбарчай ініцыятыве «Альтэрнатыва для Германіі», якая была створаная на пачатку гэтага года. Рэйтынг той жа «Альтэрнатывы для Германіі» складае зараз каля 2,5 працэнта.

Можна шукаць шмат прычын, чаму прыярытэт надаецца менавіта «Альтэрнатыве для Германіі», аднак відавочна адно: нацыянал-дэмакраты страцілі стары электарат і не знайшлі новы. Прычым вярнуць Kameradschaften у сваё лона нацдэмам будзе вельмі цяжка. Пасля таго, як Хольгер раскрытыкаваў нефармалаў, сярод апошніх папулярная тэма, што функцыянеры NPD іх проста эксплуатуюць. Дарэчы, баварскія Kameradschaften свядома адмовіліся дапамагаць нацдэмам збіраць подпісы.

Тое, што стратэгія «сур'ёзнага радыкалізму» Хольгера Апфеля не вытрымала першы сур'ёзны іспыт у выглядзе выбараў, адразу рэанімавала ўнутрапартыйную апазіцыю. Незадаволеныя аб'ядналіся вакол былога старшыні Уга Войгта, пры якім партыя сістэмна працавала з Kameradschaften. У дадатак, канкурэнцыю нацдэмам складае новая партыя «Правыя», якая паўстала гэтай вясной. «Правыя» падкрэсліваюць неабходнасць працы з т. зв. «Вольнымі сіламі» (моладзевымі правымі субкультурамі). Увогуле, на ўсёй партыі «Правыя» на момант рэгістрацыі было не больш за 400 чалавек (нацыянал-дэмакратаў каля 11 тысяч), аднак яны адчувальна дастаюць нацдэмаў крытыкай на адрас кіраўніцтва.

У выніку нацыянал-дэмакраты вымушаны значную частку часу губляць на барацьбу з канкурэнтамі на правым флангу. Напрыклад, пры партыі створана цэлая аналітычная група, якая займаецца аналізам таго, што робіць «Альтэрнатыва для Германіі». Галоўным чынам, карычневыя атакуюць «Альтэрнатыву для Германіі» за тое, што яе партыйныя пасланні мала чым адрозніваюцца ад паводзін партыі істэблішменту. Адзін з кіраўнікоў нацдэмаў нават называў сябраў «Альтэрнатывы для Германіі» — «псеўдаеўракрытыкі».

Лідары «Альтэрнатывы для Германіі» сапраўды, як гаворыцца, «фільтруюць базар». На этапе стварэння ініцыятывы туды прыйшло шмат неанацыстаў, і цяпер партыя спрабуе давесці сваю палітычную лаяльнасць ідэям дэмакратыі і рэспублікі. Праўда, стаўленне да гэтага праекту ў нямецкім соцыуме дасюль вельмі асцярожнае. Прынамсі, рэйтынгі «Альтэрнатывы для Германіі» не такія вялікія, якія былі на старце праекту.

Падсумоўваючы сітуацыю, можна сказаць, што карычневыя на восеньскіх выбарах Германіі не пагражаюць. Праўда, гэта не значыць, што агрэсіўны нацыяналізм згубіў сацыяльную глебу. Хутчэй за ўсё, ён будзе мімікрыраваць і шукаць новыя палітычныя формы, накшталт той жа «Альтэрнатывы для Германіі».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### РУСТАМ МІНІХАНАЎ



Прэзідэнт Татарстану Мініханаў падпісаў новую канцэпцыю нацыянальнай палітыкі, якая выклікала шок у Маскве. У адпаведнасці з канцэпцыяй, Татарстан больш не з'яўляецца прававым дзяржаўным фармаваннем у складзе Расіі, як было запісана ў папярэдняй версіі. Затое Казань абвешчана духоўным цэнтрам усяго татарскага народа, чый статус неабходна ўмацоўваць і падтрымліваць. Такога ад Рустама, які кіруе Татарстанам з 2010 года, яўна не чакалі. Лічылася, што, у адрозненне ад свайго папярэдніка Мінцімера Шаймієва, ён не будзе фліртаваць з нацыяналістамі. З моманту свайго прыходу да ўлады ў Татарстане Рустам Мініханаў, які раней меў імідж шэрага тэхнічнага адміністратара, не мог не стаць сімвалам спадзяванняў для тых, хто быў рэзка супраць сепаратысцкіх настрояў. Аднак надзеі аказаліся ілюзіяй. «Новы палітычны курс» у галіне той жа нацыянальнай палітыкі мала чым адрозніваецца ад старога. Ва ўрадзе рэспублікі па-ранейшаму большасць месцаў займаюць татары. «Школы і не думаюць скарачаць колькасць гадзін, якія адводзяцца на вывучэнне татарскай мовы, што ідзе на шкоду вывучэнню рускай», — канстатуе адно з маскоўскіх выданняў. На думку назіральнікаў, Мініханаў, падпісаўшы канцэпцыю, парушыў пакт з Масквой, якая дамаглася адстаўкі Шаймієва, і цяпер трэба чакаць канфлікту Казані з Цэнтрам.

### АЛЬФРЭД БОШ



Лідар фракцыі левай нацыяналістычнай партыі «Каталонскія левыя рэспубліканцы» (ERC) у іспанскім парламенце Альфрэд Бош ад імя сваёй фракцыі даслаў ліст салідарнасці адміністрацыі Гібралтара, які даўно з'яўляецца аб'ектам спрэчкі Лондана і Мадрыда. Зараз той стары канфлікт зноў абвастрыўся. Іспанія абвінаваціла адміністрацыю Гібралтара ў замаху на іспанскую экалогію і правы іспанцаў, якія ловяць рыбу ў брытанскіх водах. А вось каталонскія нацыяналісты так не думаюць. У сваім лісце Альфрэд Бош піша, што палітыка Мадрыда адносна Гібралтара — па сутнасці рымейк таго, што іспанцы робяць у Каталоніі, а менавіта пазбаўляюць права тутэйшых на самавызначэнне. Ён таксама пагаджаецца з думкай тых палітолагаў, якія лічаць, што прычына росту напружанасці ў брытанска-іспанскіх адносінах звязаная з нядаўнім буйным карупцыйным скандалам, фігурантамі якога былі апаратчыкі кіруючай «Народнай партыі» (PP). Каб адцягнуць увагу ад скандалу, лідары PP, быццам, і пачалі разыгрываць гібралтарскую карту. На думку Боша, праблему Гібралтара, як і Каталоніі, можна вырашыць толькі праз дыялог і права народаў на самавызначэнне. Ліст Боша нарабіў шуму ў СМІ, аднак наўрад ці парад салідарнасці паўплывае на афіцыйны Мадрыд. Там знайшлі новы сродак, як пакараць Гібралтар: цяпер іспанскія памежнікі наўмысна аглядаюць машыны з брытанскімі нумарамі па 5–6 гадзін, што ўжо выклікала ў Вялікабрытаніі выбух незадаволенасці.

### КІМ ЧЭН ЫН

Лідар Карэйскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі (КНДР) Кім Чэн Ын наведаў фабрыку, на якой пачалі выпрабляцца паўночнакарэйскія смартфоны «Arirang». Лепш бы ён гэтага не рабіў. Візіт правадыра шырока асвятлялі мясцовыя СМІ, а самі смартфоны, якія рабочыя збіраюць з вялікім патрыятычным энтузіязмам, рэкламаваліся як ледзь не самыя лепшыя ў свеце. У выніку смартфонамі «Arirang» сапраўды шмат хто зацікавіўся. Шэраг СМІ правёў спецыяльнае даследаванне і прыйшоў да высновы, што «Arirang» — гэта проста ліпа. У КНДР сапраўды робяць смартфоны, але як! Проста ў суседнім Кітаі набываюць камплектуючыя, каб пасля сабраць апарат у Карэі. Ёсць нават версія, што паўночнакарэйскім айцішнікам давяраюць проста ўпакаваць кітайскія прыборы ў корпусы. Па сутнасці, лепшым доказам нізкага ўзроўню паўночнакарэйскага сектару IT ёсць сам лідар. Некалькі разоў ён з'яўляўся на публіцы са смартфонам HTC. Надаюць перавагу замежным мадэлям і іншыя прадстаўнікі мясцовай эліты. Варта адзначыць, што Кім Чэн Ын — не Калумб у галіне стварэння антыімперыялістычных смартфонаў. Раней нябожчык Уга Чавес абяцаў наладзіць у Венесуэлы выпуск смартфонаў па 15 долараў за штуку, якія маглі б захапіць увесь сусветны рынак. Праўда, больш пра тыя цуда-смартфоны інфармацыі не паступала.



ЦІКАВА

# КАРПАЦКІ ВУЗЕЛ

## «ЛОМ» — ДЫВЕРСІЙНАЯ АПЕРАЦЫЯ ПОЛЬСКАЙ ВЫВЕДКІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У 2013 годзе спаўняецца 75 гадоў з пачатку сакрэтнай дыверсійнай аперацыі польскай выведкі супраць Чэхаславакіі ў Закарпацкай Русі.**



Польская армія ўваходзіць у Цешынскую вобласць, 1938 год


Маршал Эдвард Рыдз-Сміглы ў Цешыне, 1938 год

У міжваеннае дваццацігоддзе адносіны на лініі Варшава—Прага былі нацягнутымі. У 1920 годзе спрэчка за Цешынскую Сілезію паміж дзвюма маладымі ўсходнееўрапейскімі дзяржавамі ледзь не перарасла ў адкрыты ўзброены канфлікт. Паводле рашэння канферэнцыі ў бельгійскім горадзе Спа, 28 ліпеня 1920 года гэтая тэрыторыя была падзелена. Чэхаславакія атрымала больш 50-ці працэнтаў Цешынскай вобласці, на якой пераважала польскае насельніцтва. Аднак гэта была не адзіная тэрыторыя, якая цікавіла Варшаву. Закарпацкая Русь таксама прыцягвала ўвагу генеральнага штаба Войска Польскага.

### Барацьба за русінаў

Падчас Першай сусветнай вайны ў Закарпацкай Русі былі распаўсюджаныя панславісцкія ідэі. У 1917 годзе на кангрэсе русафільскіх арганізацый, якія праходзілі у Нью-Ёрку, нават гучалі заклікі наконт аб'яднання Галіцыі, Букавіны і Закарпацкай Русі і далучэння гэтых тэрыторый да Расіі. У сваю чаргу, пра свае прэтэнзіі на гэтыя землі заяўлялі і ўкраінцы. У лістападзе 1918 года ў Спішу была створана «Руская народная рада», якая стала першым урадам Закарпацкай Русі. (Пазней Рада пераехала ў Прэшаў). У пачатку 1919 года гэты орган абвясціў аб'яднанне Русі з Чэхаславакіяй. Рэспубліканскі ўрад Венгрыі спрабаваў далучыць гэтыя тэрыторыі да сваёй дзяржавы, але ў 1919 годзе чэхаславацкія войскі занялі амаль усю Русь. У мясцовасці Ясіна была спроба ўзняць украінскае паўстанне, якое хутка было падаўлена.

На Парыжскай мірнай канферэнцыі ні венграм, ні ўкраінцам, ні тым больш рускім эмігрантам не ўдалося пераконваць чэхаславакам абгрунтаваць іх правы на закарпацкія тэрыторыі. Рада міністраў замежных спраў краін Антанты падтрымала прапановы Прагі аб аўтаноміі Русі ў складзе Чэхаславакіі. Паводле Трыянонскага мірнага дагавора, заключанага 4 чэрвеня 1920 года, Будапешт адмовіўся ад правоў на Славакію і Закарпацкую Русь.

Менавіта ў гэты час Венгрыя пачынае супрацоўнічаць з Польшчай на міжнароднай арэне. Найважнейшым момантам, які звязаў гэтыя краіны, былі менавіта тэрытарыяльныя спрэчкі з Чэхаславакіяй. Для Другой Рэчы Паспалітай праблема Закарпацкай Русі была звязана яшчэ і з «украінскай праблемай» у самой Польшчы, а таксама савецкімі ўплывамі ў гэтым рэгіёне. Палякі небеспадстаўна лічылі, што ў будучым праз Закарпацкую Русь можа быць усталяваны савецка-чэхаславацкі «вайсковы калідор», накіраваны супраць Польшчы. Таму ў Варшаве падтрымлівалі правы Венгрыі на гэтыя тэрыторыі. Дзякуючы гэтаму, падчас польска-бальшавіцкай вайны венгры даслалі палякам некалькі транспартаў са зброяй.


Генерал Казімеж Бартноўскі ў Цешыне, 1938 год

У міжваенны час чэхаславакі не пайшлі на стварэнне шырокай аўтаноміі ў Закарпацкай Русі. У 1923 годзе яе губернатарам стаў русафіл Антоній Бескід. Аднак яго намеснікам быў чэх Антанін Разсыпал, які валодаў фактычнай уладай. У 1927 годзе тэрыторыя правінцыі была падзелена на 12 паветаў, на чале якіх сталі чыноўнікі, дасланыя з Прагі. Чэшская мова паступова выцясняла русінскую са школ і дзяржаўных устаноў. Усё гэта спрыяла развіццю апазіцыйных настрояў у грамадстве гэтага небагатага аграрнага рэгіёну.

### Польшча назірае за русінамі

У Варшаве Чэхаславакію называлі «штучнай дзяржавай». Але і Прага не разглядала Варшаву як сур'ёзнага суперніка, называючы Польшчу «Балканамі Поўначы». Усё гэта не спрыяла заключэнню вайсковага саюза гэтых дзяржаў супраць набіраючай моц Германіі. Пасля нармалізацыі польска-нямецкіх адносін Варшава пачала ціснуць на Прагу, нагадваючы пра «цяжкае» становішча палякаў у Цешынскай Сілезіі.

У 1934–1935 гадах на гэтай тэрыторыі склалася вельмі напружаная сітуацыя, і чэхаславацкія ўлады вымушаны былі прымяняць рэпрэсіі супраць мясцовых палякаў. Да таго ж Варшава абвінавачвала Прагу ў прасавецкіх настроях. З трывогай палякі назіралі і за ростам праўкраінскіх настрояў у Закарпацкай Русі.

У 1934 годзе ў Варшаву з афіцыйным візітам прыехаў прэм'ер-міністр Венгрыі Д'юла Гёмбёш, які абмеркаваў з Юзафам Пілсудскім справу… агульнай польска-венгерскай мяжы. Падчас гэтага візіту палітыкі гаварылі і аб падтрымцы антычэхаславацкага руху ў Закарпацкай Русі. У лютым 1938 года на сумесным паляванні ў Белавежскай пушчы, якое арганізавалі ў гонар венгерскага рэгента Міклаша Хорці, польскія і венгерскія палітыкі гаварылі акрамя ўсяго і пра будучы лёс Чэхаславакіі.

### Аперацыя «Лом» і вырашэнне «рускага» пытання

22 верасня 1938 года падрыхтаваныя польскімі спецслужбамі агенты пачалі дыверсійную дзейнасць у Цешынскай Сілезіі. Гэта павінна было справакаваць узброенае паўстанне польскага насельніцтва, якое пражывала там. 30 верасня Варшава накіравала ў Прагу ўльтыматум з патрабаваннем вярнуць Польшчы Заользе. Ужо на наступны дзень чэхаславакі пагадзіліся на гэта.

Наступнай была праблема Закарпацкай Русі. Венгрыя прапанавала Польшчы сумесную збройную акупацыю гэтых тэрыторый, аднак Варшава адмовілася. Разам з тым, ужо 7 кастрычніка 1938 года начальнік Генеральнага штаба Войска Польскага брыгадны генерал Вацлаў Стахевіч падпісаў загад аб падрыхтоўцы польскіх дыверсійных атрадаў для дзейнасці на тэрыторыі Закарпацкай Русі. Адначасова на мяжу з Румыніяй былі перакінуты 4 батальёны Корпуса аховы памежжа. 19 кастрычніка быў выданы загад аб прыгатаванні да аперацыі «Лом». За яе арганізацыю адказваў маёр генеральнага штаба Феліксс Анкерштайн.

У задачу польскіх дыверсантаў уваходзіла знішчэнне дарожнай і чыгуначнай інфраструктуры, ліній сувязі, пунктаў чэшскай жандармерыі і памежнай аховы. Напачатку гэтыя акцыі праводзілі непасрэдна ля мяжы. Дакументы польскай выведкі, якія захаваліся ў польскіх і расійскіх архівах, даюць дакладныя звесткі пра тую «невядомую дыверсійную вайну».

22–23 кастрычніка палякі знішчылі лініі сувязі на дарозе Перэцін—Свалява, а таксама ўзарвалі масты на шашы Ніжне Верэцке і рацэ Латорча. Праз дзень 22 чалавекі перайшлі мяжу і накіраваліся да чыгуначнай лініі ля Сваявы з мэтай яе знішчэння. 25 кастрычніка палякі заклалі выбухоўку на шашы Крэцкі—Довге. 29 кастрычніка польскія «партызаны» атакавалі будынак лясной аховы ў Сінірскай Паляне. Праз дзень гэты ж аддзел атакаваў патруль чэшскай паліцыі. 31 кастрычніка польскі дыверсійны атрад знішчыў мост на шашы Керэцкі—Довге, пры гэтым забіў 4 чэшскіх жандараў і 3 сябраў АУН.

З 5 лістапада тэрыторыя дзейнасці польскіх «партызан» распаўсюдзілася ўглыб тэрыторыі Закарпацкай Русі. Было створана 7 добра ўзброеных ротаў (каля 80 чалавек). Гэтыя атрады павінны былі аб'ядначца з венгерскімі дыверсантамі.

10 лістапада палякі паспрабавалі знішчыць казармы чэшскіх войскаў у Чэрна Рыка, але пасля кароткага бою вымушаны былі адступіць. У гэты ж дзень дыверсанты захапілі ў палон 19 жандараў і адвялі іх на польскую тэрыторыю. Гэты выпадак выклікаў абурэнне з боку польскага камандавання. «Трэба было разабрацца з імі на тэрыторыі Русі», — такой была рэзалюцыя аднаго з афіцэраў Войска Польскага.

Хутка да вырашэння «рускага» пытання далучыўся і Трэці Рэйх, які праз сваю выведку падтрымаў украінскія арганізацыі, што дзейнічалі на гэтых тэрыторыях. 2 лістапада 1938 года адбыўся Першы венскі арбітраж, паводле якога Венгрыі была перададзена частка Славакіі і Русі. Аднак 20 лістапада 1938 года Германія і Італія заявілі рашучы пратэст супраць сілавога далучэння Закарпацця да венгерскай дзяржавы. У немцаў былі свае планы на гэтыя тэрыторыі, тым больш, што Польшча ўжо адмовілася ад нямецкіх прапаноў аб перадачы Гданьска Рэйху, і Берлін больш не лічыў Варшаву магчымым хаўруснікам. Хутка Другая Рэч Паспалітая вымушана была адмовіцца ад дыверсій у Закарпацкай Русі, і 24 лістапада аперацыя «Лом» была скончана. Аднак некаторыя атрады працягвалі дзейнічаць да канца месяца.

У адпаведнасці са справаздачай польскага Генштаба (ад 10 снежня 1938 года) за перыяд з 20 кастрычніка па 10 лістапада ў Закарпацкай Русі было знішчана: 1 чыгуначны мост, 4 шашэйныя масты, 1 водны шлюз, 8 тэлеграфных ліній. Пры гэтым забіта 7 чэшскіх жандараў і паліцэйскіх і 5 паранена. Страты польскага боку склалі: 4 забітых і 7 параненых. З 10 па 30 лістапада было праведзена 37 дыверсійных актаў, пры гэтым забіта 14 і паранена 10 чэшскіх паліцэйскіх, жандараў і вайскоўцаў. Страты польскіх дыверсантаў склалі 7 забітых і 7 параненых. Увогуле, аперацыю ў польскіх вайсковых колах прызналі няўдалай і кепска прыгатаванай.

Рост праўкраінскіх настрояў у гэтым рэгіёне прымусіў Варшаву ў студзені 1939 года вярнуцца да плану дыверсійнай дзейнасці на тэрыторыі Закарпацкай Русі. Польскія дыверсанты павінны былі знішчаць камунікацыі, якія звязвалі Русь са Славакіяй і Румыніяй, і ажыццяўляць напады на прадстаўнікоў чэшскай адміністрацыі. Аднак пазней Другі аддзел Генштаба Войска Польскага адкарэктаваў гэты план, скіраваўшы яго супраць прадстаўнікоў украінскіх структур на Русі.

15 сакавіка 1939 года Трэці Рэйх пачаў акупацыю Чэхіі. Венгрыя пагадзілася аказваць Германіі эканамічную падтрымку, а ў адказ Берлін дазволіў Будапешту акупаваць Закарпацкую Русь. 18 сакавіка венгерскія войскі занялі гэтую тэрыторыю. Неабходнасць у працягу аперацыі «Лом» адпала.

Агульная польска-венгерская мяжа праіснавала ўсяго 6 месяцаў. У верасні 1939 года менавіта праз гэты калідор, як і праз суседнюю Румынію, будзе эвакуявацца разбітае Войска Польскае, дзяржаўныя структуры Другой Рэчы Паспалітай і бежанцы. Большасць польскіх сакрэтных дакументаў, што мелі дачыненне да аперацыі «Лом», апынуцца спачатку (у 1939 годзе) у руках нацыстаў, а потым (у 1945 годзе) стануць трафеем савецкіх спецыяльных службаў. Што ж тычыцца лёсу Закарпацкай Русі, то пасля Другой сусветнай вайны яе тэрыторыя была падзелена паміж СССР, Польшчай і Славакіяй.

**Больш унікальных фатаздымкаў можна знайсці на нашым сайце novychas.info**

РАДЗІННАЕ

# ГАСПАДЫНЯ «РОДНАГА КУТКА»

Раіса МАРЧУК

**Адпачынак на ўлонні прыроды стаў вельмі пасяховай і запатрабаванай галіной нашага турызму, у вёску кіруюцца як беларусы, так і замежныя госці. Шмат хто спяшаецца і ў вёску Валодзькава Глыбоцкага раёна на адпачынак да Юліі Букі, у сядзібу «Родны куток».**



Гаспадыня «Роднага кутка» Юлія Бука



Фота аўтара

Аўтэнтычная хата прываблівае і захапляе турыстаў

## Акунуцца ў сапраўднае вясковае жыццё

Гаспадарка Юліі перамагла ў рэспубліканскім конкурсе «Найлепшая аграэкасядзіба 2010 года» ў намінацыі «Зялёная сядзіба». А пачынала яна сваю справу, можна сказаць, з нуля і крэдытаў не брала.

— Мая сядзіба — гэта звычайная вёска, дзе я вырашыла некалькі дамоў, — распавяла Юлія. — Давялося іх крыху падправіць і дадаць «цывілізацыі». Хаця заўсёды шкада руйнаваць тое, што ўжо ёсць у хатах. Таму па магчымасці стараемся захаваць стыль дамоў, бо мы запрашаем людзей не адпачываць, а пажыць, дакладней, акунуцца ў сапраўднае вясковае жыццё, дзесьці нават патрыярхальнае. Госці бачаць, што ў побыце тутэйшых насельнікаў шмат што захавалася з сямідзясятых, васьмідзясятых гадоў — калі я была маленькаю, бачыла многае з гэтага. Адных гэтая акалічнасць вельмі здзіўляе, а другіх — прываблівае і захапляе.

Юлія тут нарадзілася і вярнулася на Глыбоччыну пасля заканчэння Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Потым выйшла замуж, з'явілася дзіця, а жыць не было дзе. У вёсцы ад бацькоў засталася хата. Вырашылі ў ёй і пасяліцца. Потым пачалі пакрысе купляць хаты па суседстве, каб заняцца агратурызмам. А яшчэ не хацелі, каб у іх засяліліся «чужынцы». Ужо тады, напрыканцы мінулага стагоддзя, стала модным прыязджаць з вясёлай кампаніяй з горада на выхадныя.

— Мне вельмі не падабалася, што нейкі «чужынец» будзе гаспадарыць на зямлі маіх продкаў, — горача зазначае гаспадыня «Роднага кутка». — Сёння я жыву ў хаце, якая пабудавана больш як сто гадоў таму. Гэта дом маёй маці, яе дзеда. Па суседстве — хата старой пабудовы, якую ў 50-я гады перавезлі з хутара. Выкупіла будыніну ў бабулі, якая з'ехала жыць да дзяцей у горад. Крыху падрамантавалі, але захавалі амаль усю мэблю. Госці заўсёды з цікавасцю разглядаюць шафу, зробленую без адзінага цвіка!

## Беларускамоўным турыстам — зніжкі

Юлія разам з дзецьмі — малодшым сынам Данатам і дачкою Алесяй — збірае аўтэнтычныя рэчы. Навошта ім гэта? І так штодзённых клопатаў хапае, толькі паспявай: адны госці ад'язджаюць — другія ўжо на парозе.

— Не хацелася б, каб гэтыя каштоўнасці бясследна зніклі, — тлумачыць Юлія. — Ёсць у нас дыван Язэпа Драздовіча. Купілі яго ў бабулі з суседняй вёскі. Ложкі гасцей засцілаем саматканымі дыванамі, якія і сёння ткуць мясцовыя майстрыхі. Маем і калаўроты. А яшчэ дзіўную рэч пад назвай «арфа» — гэта спецыяльная прылада для адсейвання смецця і прасейвання зерня ды падзелу яго на большае і драбнейшае. І сёння вяскоўцы карыстаюцца арфай, якую, аднак, удасканалілі: прыладзілі для паскарэння працэсу маторчык. Часта людзі тэлефануюць мне і пытаюцца: можа, ты гэтую рэч купіш? Выкарыстоўваем у пакоях шмат вышыванак. На жаль, многія рэчы не можам у хатах павесіць ці паставіць, бо госці бываюць розныя. Аднойчы хтосьці скраў старадаўнюю ікону, знік і тканы дыван з ложка.

Неяк купіла Юлія ў адной бабулі адмысловыя дыванкі на падлогу, вытканыя з нітак і... саломы. Магчыма, калісьці ткалі іх так з-за беднасці — ніткі каштавалі дорага, а саломы ў гаспадарцы звычайна хапала.

— Бачыла на фотаздымках, як унутры катэджа расстаўлены, дзе трэба і не трэба, калаўроты, іншыя прылады сялянскай працы — маўляў, модна, — зазначае гаспадыня аграсядзібы. — Мне ж усё гэта падаецца ненатуральным. Мару стварыць этнаграфічны кут, але пакуль няма дастатковых сродкаў.

Беларускамоўным турыстам гаспадыня прадстаўляе зніжкі на пражыванне ў памеры 20 працэнтаў.

— Я не патрабую, каб госці размаўлялі са мной толькі пабеларуску, — тлумачыць Юлія. — Але паважаю тых, хто трымаецца роднай мовы і ўдзячна тым, хто паважае мяне за тое, што я размаўляю па-беларуску.

«Родны кут» мае пастаянных кліентаў, з якімі вельмі проста наладжваць стасункі, бо яны ведаюць, куды едуць і што іх чакае. Гэта нашмат спрашчае працу гаспадарам. Не трэба тлумачыць, што гэта не санаторый, не «еўрарамонт», а асобнае жыллё ў звычайнай вясковай хаце.

— У нас былі такія госці, якія казалі: шкада, што нам трэба плаціць, каб паглядзець, як жылі нашы бацькі, — заўважае Юлія. — Неяк прыязджалі палякі — амаль 20 дзяцей і дзесяць дарослых. Пасля адпачынку хлопчыкі і дзяўчынкі напісалі ў інтэрнэце, што так прыемна, як адпачывалі ў нас, яны нідзе і ніколі час не бавілі. Палякі з'ездзілі на экскурсію ў Полацк і Глыбокае, пакупаліся ў нашым возеры.

Мне таксама вельмі спадабалася ў Юліі, якая, скажам так, захоўвае дух сваёй вёскі, як можа і разумее, клапоціцца пра яе аўтэнтыку. Толькі хацелася б, каб мясцовыя ўлады паклапаціліся пра лепшую дарогу да Валодзькава.

ПАКЛІКАННЕ

# ГАСПАДЫНЯ ДОМА РАМЁСТВАЎ

Раіса МАРЧУК

**Валянціна Свірская — дырэктар Палянскага сельскага дома народнай творчасці і рамёстваў, народны майстар па саломапляценні, маці траіх дзяцей. Жыве і працуе ў вёсцы на Ашмяншчыне. Тут, на роднай зямлі, яна знайшла прымяненне сваім талентам, фантазіі. Адбылася як творчая асоба. І змагла згуртаваць вакол сябе людзей розных узростаў, але аднолькава неабыякавых да беларускай спадчыны.**



Дырэктар Палянскага сельскага дома народнай творчасці і рамёстваў Валянціна Свірская

А пачалося ўсё ў 1997 годзе, калі маладой вясковай жанчыне прапанавалі ўзначаліць Палянскі сельскі клуб, які на той час лічыўся адным з самых адсталых у раёне.

— Калі я ўбачыла, як ён выглядае, адразу захацелася штосьці змяніць, зрабіць гэты асяродак культуры больш прывабным. Каб людзі часцей заходзілі сюды і атрымоўвалі задавальненне, — успамінае Валянціна Свірская.

Вось з гэтага маленькага жадання нарадзілася, без перабольшання, вялікая справа. На дапамогу жанчыне прыйшла пляменніца Наталля Мась (настаўніца з Ліды), якая навучыла яе працаваць з саломкай. Да гэтага Валянціна Казіміраўна толькі вязала, дый тое ў падлеткавым узросце. Але ўжо ў хуткім часе пачала весці заняткі з дзецьмі ў гуртку «Умелыя ручкі». У асноўным рабілі аплікацыі з саломкі ды розныя рэчы з пап'е-машэ. Потым асвоілі і саломапляценне.

Агульнымі намаганнямі і з вялікім задавальненнем упрыгожылі сваімі работамі сцены клуба, стварылі майстэрню ў стылі «Беларускай хаткі». Да пошуку экспанатаў падключыліся і мясцовыя жыхары. Даставалі з куфраў дарагія сэрцу рэчы і неслі ў клуб. Каб людзі пазнаёміліся з майстэрствам, а пры жаданні самі навучыліся ткаць, вышываць...



Фота аўтара

Лялька з саломкі, аўтар Валянціна Свірская

Напрыклад, вядомая на Ашмяншчыне майстар па ткацтве Вера Афанасьеўна Саўчанка падаравала дыван, які вышывала крыжыкам пяць гадоў! І стала частым госцем у клубе.

— Звычайна, пераступаючы парог, кажа: «Мне трэба паправіць здароўе», — расказвае Валянціна Свірская. — Заўсёды паглядзіць, што ў нас новага, падкажа, як лепш размясціць вырабы. Густу майстрыхі мы давяраем. Была ў нас і выстава яе работ. Некаторыя з іх яна падарыла нашаму Дому творчасці.

Маці Валянціны Казіміраўны, Феліцыя Казіміраўна, і свякроў, Гэнуэта Станіславаўна (цяпер яе ўжо няма ў жывых), аддалі «ў хатку» капу, ручнікі, якія самі калісьці выткалі.

У 2003 годзе Палянскі сельскі клуб атрымаў новы статус і стаў называцца «Палянскі дом народнай творчасці», а праз два гады ператварыўся ў «Палянскі дом народнай творчасці і рамёстваў». З гэтага часу тут пачалі працаваць ажно восем гурткоў. У шасці з іх дзеці знаёмяцца з народна-прыкладной творчасцю, у сёмым асвойваюць тэатральныя сакрэты (ёсць і свая «Батлейка»), а ў восьмым вучацца вакалу.

Як толькі прыйшла мода на бісер, дзеці, безумоўна, захацелі навучыцца бісерапляценню. Давялося Валянціне Казіміраўне засесці за літаратуру і па кніжках, самастойна, асвоіць яшчэ адно адмысловае рамяство. А аднойчы за кароткі час навучылася працаваць з салёным цестам, бо прыйшла дзяўчынка, якая вельмі захацела зляпіць з яго падарунак бабулі да 8 Сакавіка.

Чатыры гады таму ў Валянціны Казіміраўны з'явілася памочніца — Валянціна Пакульневіч, якая вядзе заняткі ў гуртках «Кручок і фантазія», «Рукадзелле».

Работы юных майстроў і іх настаўнікаў пастаянна дэманструюцца падчас розных мерапрыемстваў раённага, абласнога і рэспубліканскага ўзроўняў, адзначаны шматлікімі граматамі і дыпломамі.

Не пустуе дом рамёстваў і падчас школьных канікулаў. Бывае, на заняткі прыходзяць і дзеці, якія прыехалі да бабуль у госці. Заходзяць і дарослыя — адпачыць душою, перамовіцца словам з аднавяскоўцамі, пагладзець, як іх дзеці і ўнукі асвойваюць старадаўнія і сучасныя рамёствы.

Ужо стала традыцыяй, што кожную восень работнікі культурных установ Ашмянскага раёна наведваюць сваіх калег. Гэты своеасаблівы абмен вопытам з'явіўся штуршком да таго, што тэрыторыя каля дома народнай творчасці ў Палянах, якая займае ладны кавалак зямлі, ператварылася ў чароўнае месца. Людзі прыходзяць сюды на экскурсію, фатаграфуюцца на памяць.

Гледзячы на прыгожую, напоўненую энергіяй Валянціну Свірскую, міжволі здзіўляешся, як яе на ўсё хапае. Работа, сям'я, уласная гаспадарка (трымаюць яшчэ і каня). Жыццё ж у вёсцы лёгкім не назавеш.

— Без дапамогі аднадумцаў, сваіх вучняў, а таксама мужа, Міхаіла Генрыхавіча, не змагла б увасобіць у жыццё многія ідэі, — шчыра прызнаецца дырэктар дома рамёстваў. — Калі я на працы, то жыву толькі творчасцю, адпачываю ад гаспадарчых клопатаў. Бо тут я займаюся любімай справай, хаця і вельмі баляць пальцы ад саломы. Шчыра кажучы, не ўяўляю жыцця нашай вёскі без дома рамёстваў, тым больш, што пяць гадоў таму ў нас закрылі школу. Калі вёска страціць яшчэ і гэты асяродак культуры, то жыццё ў Палянах будзе зусім іншым.

▸ **ВЫСТАВА**

# НАБЫТКІ НАШЧАДКАЎ АСТАПА БЭНДЭРА

**Аляксей ХАДЫКА**

**У Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адчынілася выстава «Выратаваныя каштоўнасці». Экспазіцыя са збораў брэсцкага музея «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці», філіі Абласнога краязнаўчага музея, адчыненая для наведвальнікаў да 15 верасня.**



Абразы і срэбра. Экспазіцыя

Першае ўражанне ад выставы — вось яна, спадчына няўдалых нашчадкаў Астапа Ібрагімавіча, нязДзейсненыя мары пра Рыа-дэ-Жанэйра. У рукі пільных мытнікаў у якасці канфіскату рэдка трапляюць творы «высокага» мастацтва. Брэсцкаму музею, які адчыніўся ў 1989 годзе, а першыя творы калекцыі прыдбаў у 1953-м, толькі аднойчы пашчасціла набыць вазу Фабержэ: буйныя кантрабандысты не вязуць шэдэўры цягнікамі ці аўтобусамі праз беларускую мяжу.

У асноўным трапляецца «дробны прадпрымальнік», які імкнецца прапанаваць на Захадзе сямейныя абразкі ці фамільнае срэбра, часам не ведаючы, што кожны мастацкі выраб, старэйшы за 1939 год, або не афармлены дазволам спецыяльнай камісіяй Мінкульта на вываз, лічыцца кантрабандай. Гэта не суседняя Польшча, дзе кожны антыкварны прадмет, таннейшы за 50 тысяч еўра і легальна куплены ў мастацка-антыкварнай лаўцы, можна вольна вывозіць у любым кірунку. На беларускай мяжы ёсць рызыка страціць і мастацкі твор, прыдбаны ў Еўропе без адпаведнай дакументацыі, які новы ўладальнік імкнецца ўвезці ў краіну.

За гады збірання калекцыі ў яе такі трапілі творы вядомых мастакоў — пейзажы Івана Айвазоўскага і Юлія Клевера, эскіз Міхаіла Урубеля да «Дэмана», і, што асабліва каштоўна, — работа беларуса Апалінарыя Гараўскага.

У Мінск жа прывезлі шараговы канфіскат, не пазбаўлены, аднак, пэўнай вартасці. Гэта і ёсць асноўным пасылам экспазіцыі: уладальнікі прабабчыных сямейных рэліквій могуць пераканацца, што іх фамільнае дабро мае і эстэтычную, і гістарычную, і музейную каштоўнасць.

Хатнія іконы вырабу пецярбургскіх, кіеўскіх і іншых майстэрняў XIX — пачатку XX стагоддзя часам маюць адзнакі вытанчанага пісьма, літыя складні, царкоўныя друкі зіхацяць эмалямі і ювелірнымі абкладамі. Побач — прадметы ўжытковага мастацтва. Паліцы экспазіцыі ўпрыгожваюць соуснікі, падстаўкі пад шклянкі, партсігары і шкатулкі варшаўскіх і нямецкіх ювелірных фірм, рыжскі крышталь XIX стагоддзя — прадметы мяшчанскага побыту дарэвалюцыйных часоў. Асобны раздзел — нумізматыка, баністыка, зброя — манеты ад візантыйскіх да расійскіх, дэкаратыўныя чаканныя каўказкія паясы з тымі ж манетамі, кінжалы ў чаканных ножнах. А яшчэ прадметы з Усходу — тыя, што вольна даязджаюць да беларускай мытні з-за адсутнасці ахоўваемай мяжы з Расіяй. Дзе яшчэ, як не ў брэсцкай калекцыі, сустрэнеш персідскія дываны ці выявы кітайскіх воінаў-коннікаў з разьбой і роспісам па косці?

Слоган выставы — «Культура не ведае правіцы», магчыма, занадта гучны. Як і тэрмін «уратаваных» да экспанатаў не зусім пасуе: нашай дзяржаве неабходна яшчэ ўпарта вучыцца ратаваць тыя каштоўнасці, архітэктурныя і рухомыя, якія знаходзяцца пад яе непасрэднай апекай, але дагэтуль нішчацца. Выстава — хутчэй цікавы сацыяльна-псіхалагічны экскурс у свет сучаснага кантрабандыста. Аднак нельга не адзначыць станоўчую тэндэнцыю: канфіскаваныя набыткі нашчадкаў Бэндэра, як і новазнойдзеныя клады, больш не едуць аўтаматычна ў «Гохран СССР», а ўзбагачаюць беларускія музеі.





Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 981

Падпісана да друку 16.08.2013. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча